*Камусьці выпадаюць церні,*
*Камусьці — лаўры і дары.*
*Два полюсы — святла і цемры —*
*Штодзень ваююць на зары.*

*Мар'ян Дукса*

У АДНОЙ ГАДЗІНЕ КАХАННЯ —
ЦЭЛАЕ ЖЫЦЦЁ.

*Бальзак*

# ЛІРЫКА

* * *

Зямля мая, блакітны карабель!
Куды ляціш, да Сонца прыкавана?
Ні рыфы зорныя цябе, ні мель
Не страшаць у касмічным акіяне.

І я на ім — як радавы матрос,
Нацягваю тужэй штосілы ветразь,
Лячу ў гадзіну сорак тысяч вёрст,
І за спіною свішча аж паветра!

А за кармой бушуе Млечны Шлях,
Хай брэшуць Ганчакі, хай шчэрацъ зяпы —
Нас не дагнаць! Нам невядомы страх...
Мядзведзіца, дай мне на шчасце лапу!

Шалёны рух! І ў гэтай крутаверці —
Жыццё адвечнае і нашае бяссмерце!



О, не кажы ты мне: — Бывай!
Кажы: — Да пабачэння, любы...
Руку маленькую падай
І пацалуй на шчасце ў губы.

Мая адзіная любоў,
Мая ты боль і асалода,
Прыходзіш да мяне ізноў,
І рады я табе заўсёды.

Нясеш ты буру і спакой,
Майго жыцця і сіл крыніца,
Мы лёсам звязаны з табой.

Пакуль у сэрцах кроў бруіцца,
Ніколі нам не разлучыцца:
Ты — Сонца, а я — Месяц твой!



О, мова матчына пявучая мая!
Густая, нібы мёд, іскрыстая, як сонца,
Вясёлак фарбы тут, і трэлі салаўя,
І звон крыніц, і шум лясоў бясконцы...

Нікога ты не прыгнятала на зямлі,
Ты адкрывала свет, сыноў сваіх натхняла,
Давала сілы нам у грозны час навалы,
З табою шчасце светлае мы здабылі.

Ў табе наш дух нязломны, наша плоць і кроў,
І думы продкаў, і нашчадкаў мудрых справы,
Гісторыя народа, і жыццё дзяржавы.

Вітаеш хлебам-соллю дарагіх сяброў,
Ім шчыра раскрываеш і душу і сэрца,
І ў дружбе моц твая, і слава, і бяссмерце!



Як хораша, што ты жывеш на свеце,
Як хораша, што я цябе сустрэў!
Цяпер па-іншаму мне сонца свеціць,
І ў сэрцы радасны гучыць напеў!

І нават боль шчымлівага расстання
Нясе не горыч, асалоду мне,
Ніштo, здаецца, плечы не сагне,
Бо неадольна на зямлі каханне.

І кожную хвіліну адчуваю
Тваё дыханне і тваю руку,
Галубка мілая і дарагая.

Зайздрошчу я крылатаму шпаку:
З птушынай паляцеў бы чарадою,
Каб найхутчэй убачыцца з табою!



Задумны і трывожны пошум хвой
Пад воблакамі, зоркамі, вятрамі...
Пяюць яны і летам і зімой
То гімн, то рэквіем мядзянымі ствaламі.

Гады мінуць... Тут іншым, маладым,
Кахаць і марыць, плакаць і смяяцца.
І дрэвы гэтыя раскажуць ім,
Як нам даводзілася за жыццё змагацца.

Ды страшна робіцца і сэрца так баліць,
Калі тапор у лесе зазвініць
І хвоі падаюць, нібы салдаты.

Нам хопіць поля, нам не трэба ляда,
Свой бор са звонам салаўёў, зязюль
Не аддадзім на глум сякер і куль!



Плыве ў прасцяг армада гарадоў,
Авеяная славай ратнай і працоўнай:
Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Магілёў,
Бабруйск, Баранавічы, Полацк, Пінск, Дуброўна,

Барысаў, Орша, Жлобін, Салігорск,
Слуцк, Слонім, Жодзіна, Асіпавічы, Крычаў,
Свір, Тураў, Рагачоў, Ашмяны, Ліда, Клічаў,
Карма, Узда, Валожын, Светлагорск,

Ушачы, Лепель, Рэчыца, Мазыр,
Чырванаполле, Быхаў, Старыя Дарогі,
Драгічын, Мядзель, Маладзечна, Мір —

Не палічыць іх на зямлі маёй...
І, нібы флагман, іх вядзе да перамогі
Наш стольны горад, слаўны Мінск-герой!



Жанчына да трыбуны падышла,
Вачыма залу абвяла, хвілінку памаўчала,
Мажліва, шлях жыццёвы свой нялёгкі ўспамінала,
І гаварыць паціху пачала.

І дзіўна! У палон нас узяла.
З такою любасцю пра Беларусь яна казала,
Што кожнага кранула, ўсхвалявала,
Ды і сама, як кветка, расцвіла:

Заззялі вочы, засвяціўся твар,
А голас загучаў, як спеў чароўнай флейты,
І вабіў некуды на крылах мар!

Сябе адчулі творцамі зноў светлай явы гэтай —
Прыгожых сёл, вакзалаў, гарадоў,
Дзе шчасце ходзіць і пяе любоў!



Плыве і кружыць зорны карагод...
А пад якой я зоркай нарадзіўся?
Ці многа пражыву ці мала год?
Са шчасцем ці з бядою заручыўся?

Гляджу на неба прагна уначы
І для сябе адказу не знаходжу.
Напэўна, лёсу срэбныя ключы
Буслы згубілі ў дальнім падарожжы...

А можа быць, ён у вачах тваіх,
Ва ўсмешцы яснай, у гарачым сэрцы?
Тады яго падзелім на дваіх,
З табою міг мне даражэй бяссмерця.

Зірні ласкава, сонца не шкадуй.
Я на край свету за табой пайду.



Снег-чараўнік! Што з лесам ты зрабіў?!
Здаецца, ў казку перанёс ты з маху:
Нейлонам, як нявест, бярозкі ўкрыў,
Дубам насунуў срэбныя папахі.

Зялёненькім гарэзніцам-ялінкам
Накінуў ты пуховыя хусцінкі,
І, збегшыся ў кружочак на палянцы,
Яны ў імклівым завіхрылі танцы!

І толькі ў смутку пасівелая асіна
Стаіць гаротна ў старане адна,
Нібы ў жалобе аўдавелая жанчына.

Магчыма, сніцца ёй вайна,
І клён з зялёнаю чупрынай,
Які падсечаны быў мінай.

* * *

*Пісьменніку, генералу*
*Аляксееву Мікалаю Іванавічу*

Шарэнга за шарэнгай, як удары хваль,
Жывы квадрат жалезны за квадратам,
Ў руках — агонь,
ў вачах — прысягі сталь —
Ідуць па плошчы гвардыі салдаты.

Ідуць нашчадкі славы баявой,
Сыны народа, верныя Радзіме,
І мір, ў парахавым здабыты дыме,
Як голуб, кружыць над маёй зямлёй.

І спее колас, пладаносіць сад,
Грудзьмі матуля корміць маладзёна,
Працуюць людзі ўпэўнена, натхнёна,

Бо адстаяць са зброяю гатовы
Кастрычніка здабыткі, заваёвы
Заўжды Савецкай Арміі салдат!



Дажджы цярусяць, ходзяць туманы,
Шумяць самотна, стынуць зябка хвоі,
Ідзе зіма. Далёка да вясны.
Трывогай сэрца поўна і тугою.

Не звоніш ты. Не едзеш да мяне.
І мне здаецца, што было між намі —
Прыснілася ў дзівосным толькі сне,
Сплыве без следу, прападзе з гадамі...

Каханая, адзіная мая,
Развей сумненні, працягні мне рукі,
Каб перажыць я мог цяжар разлукі.

А можа, надакучыў табе я?
Дык не шкадуй, кажы чыстасардэчна,
На гэтым свеце ўсё, бадай, не вечна...



Сцяг пурпуру, сцяг барвы, сцяг агністы,
Сцяг колеру жыцця, сцяг колеру зары,
Цябе нясуць, як сонца, камуністы,
І рассыпаюцца цямніц ушчэнт муры!

Пульс б'ецца ў ім і вязняў Шлісельбурга,
Парыжскіх камунараў ажывае кроў,
Дух вее мужных, бессмяротных змагароў,
Якія узнялі ў Расіі буру!

І ў Чылі, дзе лютуе вандалізм, тэрор,
Дзе душыцца і праўда і свабода,
На страх дыктатарам, іх волі насупор,

Надыдзе час — запалымнее горда
Сцяг пурпуру, сцяг барвы, сцяг змагання,
Прад ім адступіць ноч і вызарыць світанне!



*Маці*
*Міхаліне Марцінаўне*

Я пры жыцці не даражыў табой
А ты за крыўды мне дабром плаціла.
Цяпер бы я ахвяраваў сабой,
Каб толькі ты магла устаць з магілы...

Вялікадушша, глыбіні любві
Не разумеў я, хлопчык дурасліва,
Апошнюю краплiначку крыві
Ты б аддала, каб сын твой быў шчаслівы.

Сумленне мучыць і грызе мяне,
Прад Маці у даўгу я неадкупным,
Дакор за мною ходзіць неадступна
І да зямлі мяне няўмольна гне.

Мне вобраз твой святы, высакародны
Гарыць заўсёды зоркай пуцяводнай.



Шэры верабейка, птаха дзёрзкая,
Даўнія з табой мы дружбакі!
Не ляціш ты у краі заморскія,
Трапяткі званочак гарадскі.

Ў сцюжу скачаш ля акна начублены,
Стукаеш у шыбку: — Гэй, сусед!
Падзяліся хлебам ты ці бульбінай,
З галадухі мне нямілы свет...

Добраму заўсёды верны звычаю:
Клюнеш сам і клічаш ты радню,
З бліжнім дзелішся сваёй здабычаю.

Таварыскасць я тваю цаню!
Хоць жыццё не часта усміхаецца,
Верабейка скача, не згінаецца.



Ці ж з гэтым, браце, саўладаеш?
Ратунку ад яго няма...
Як прывід, па зямлі блукаеш,
Я — вязень, ты — мая турма.

І жар пякельны паліць сэрца,
То цела ўсё трасе азноб...
Я хворы на адну з хвароб,
Якой пазбегчы не ўдаецца.

І лекі рады не дадуць,
Бездапаможна медыцына,
Ты бед маіх першапрычына.

А варта ледзь табе з'явіцца —
Адразу раны зажывуць,
І закіпяць жыцця крыніцы.



*Міколу Шмелькіну*

Цымбаліст, віртуоз разудалы,
Малаточкамі ледзь узмахне:
Засмяюцца, заплачуць цымбалы,
Сэрца радасць і сум ахіне.

Адгукнуцца і хвалі рачныя,
Зашумяць, загамоняць лясы,
Зазвіняць каласы залатыя
І шкляныя званочкі расы.

І хвалююць чароўныя гукі,
І душу напаўняюць святлом,
Асалодай нявызнанай мукі.

І здзіўляе зямля хараством,
Усміхаецца сонца шчасліва —
То цымбалаў звіняць пералівы!



Твой пацалунак, нібы зоркі дотык,
На вуснах, не згараючы, гарыць...
І столькі асалоды ў ім, пяшчоты,
Што цяжка без яго і дня пражыць.

Твой пацалунак — дзіўная крыніца:
Чым п'еш часцей — тым смага ўсё расце.
Я прагну сэрцам грэшным прычасціцца,
Каб лепей стаць, душою быць чысцей.

Твой пацалунак — трапяткі матыль,
Які ўзбуджае, акрыляе мары.
Твой пацалунак — промень залаты,
Які развейвае над галавою хмары.

Твой пацалунак — шчасця шчодры дар,
Цалуй, каб не згасаў кахання жар!



Адных мы славім, іншых ганім,
Бярэм часамі цераз край...
Ды ў кожнага сваё прызванне.
Жыві. Працуй. І не шманай!

Любі зямлю, любі і неба,
Рабі дабро, не сей ты зла,
Удзячны будзь вадзе і хлебу,
І Маці, што жыццё дала.

Кахай, калі кахаць умееш,
А сябра ты ў бядзе сустрэнеш —
Не абыходзь, а прытулі!

І меркаваць пра нас нашчадкам
Па нашых справах на зямлі:
Хто варт пашаны, хто — выспятка.



Як па табе я, Мінск, засумаваў!
У лесе добра, ціха, таямніча...
Сядзеў бы там, элегіі пісаў,
Ды ўсё мацней мяне твой голас кліча!

І звон трамвая і машынаў гул,
І міліцэйскі свіст на скрыжаванні —
Ўсё нараджае радасць, хваляванне...
Без гаманы людской жыць не магу!

І я іду! Бягу ад адзіноты,
Істотаю усёй імкнуся да цябе,
Бо там — каханая, сябры, работа.

І сэрца у грудзях салодка б’е,
Нібы спяшаюся на першае спатканне...
Горш смерці мне — з табой расстанне!



Ёсць Валасевічы і ў Гомелі, і ў Оршы,
Ў Маскве, у Гродна. Нават далажу:
Здаецца, ёсць ў Амерыцы і ў Польшчы,
А хто радня — тут я паваражу...

Жылі, напэўна, продкі мае блага:
Зямлі не мелі, елі лебяду...
І, каб адужаць лютую бяду,—
Імкнуліся у свет, нібы бадзягі...

...Лісты не пішам. Не ідзём у госці,
Сустрэўшыся — не падаем рукі...
Аднафамільцы мы ці землякі?

Ды толькі прозвішча пачую я —
Аж сэрца закалоціцца чагосьці:
А можа, гэта крэўная радня?



Пад дубам тысячагадовым
Зубр-адзінец застыў, нібы скала.
У пушчы свой закон суровы:
Ты не важак, як старасць надышла.

З зубрыхай часу ўжо не бавіць,
І рык суперніка не юшыць кроў,
Пражытае — не перажыць ізноў,
Цяжар гадоў на карак давіць...

І ён, адрынуты, адзін брыдзе,
Або стаіць, як скамянелы,
Няма прыстанішча яму нідзе.

І чуе волат пасівелы,
Як воўчы гурт пачаў ужо шалець...
Бой будзе тут не на жыццё, на смерць!



*Персаналу Дома творчасці*
*імя Якуба Коласа*

Асноўнае тут воінства — жанчыны,
Камандуе парадам — генерал!
Вядзе ён рэй, трымае дысцыпліну,
За што яго шануе персанал.

І кормяць смачна тут, па-царску!
Шкада, што не даюць сто грам...
Ды тут паветра, як бальзам,—
Пі колькі хочаш, калі ласка!

Пішы трактаты і памфлеты,
Паэмы, байкі, трыялеты,
Калі ў душы ёсць божы дар...

І, ад'язджаючы дахаты,
Кажу я: — Дзякуй вам, дзяўчаты,
І вам, жаночы камандарм!



Ён не кахаў — жаніўся па разліку,
Ён не дружыў — сяброў ён прадаваў,
Хацеў вялікім стаць — не стаў вялікім,
Бо не тварыў, а толькі падпяваў.

І жонка яму рогі настаўляла,
З ягоным шэфам копаці давала,
Ды ён цярпеў, бо рваўся у чыны,
Служыць быў рады хоць у сатаны.

І вось, калі да пенсіі дажыўся,
Пастукалася думка ў галаву:
«А для чаго на свет я нарадзіўся?

А можа, я не жыў? І не жыву?
Хтось піў віно, хтось цалаваў жанчыну,
Хтось сеяў зерне. Я ж — адну мякіну...»



Бывай, кароза *! Вось і развітанне...
Пабачымся з табою мы ці не?
Якія лёс пашле выпрабаванні —
Сустрэне нас бяда ці абміне?

Не крыкнеш прывітальна з вершаліны
І сіняватым не махнеш крылом...
Заснежаныя буду сніць яліны,
Куст бэзу заінелы пад акном.

Ці ўспомніш ты з кавенькаю шкандыбу,
Які дзяліў з табою хлеба скібу,
Які табе быў, нібы сябру, рад?

Будзь шчаслівa! Да новае сустрэчы!
Магчыма, што вярнуся я назад,
І ты, як сёння, сядзеш мне на плечы.

---

* Кароза — сойка.



Учора быў яшчэ такі шчаслівы,
А сёння нешта творыцца з табой...
Набеглі хмары чорныя імкліва,
І ляскае пярун над галавой.

На сэрцы цяжка, нібы давіць камень,
Жыццё не радуе і свет не люб...
Не сцямлю, што здарылася між намі,
Не ласка, а папрок злятае з губ.

Адводзіш ад мяне чамусьці вочы,
Не прытуліцца да цябе шчакой
І кветкай аленькай назваць сваёй.

Хто вінаваты? Я не разбяру...
Але каб дзень мне не здаваўся ноччу —
Агонь гарматы на сябе бяру!



Паклёп узведзены затоены і подлы,
Стрэл з-за вугла па мне не ўпершыню...
Але ў сваёй атруце згіне гадаў кодла,
А мне жыцця браць зноўку вышыню!

Я думкі чорныя прэч адганю
І веры ў годнасць чалавечую не страчу,
Пайду я з песняю насустрач дню,
Туды, дзе сонца і вясёлку бачу!

Ачышчаны ад друзу навальнічным громам,
Як занава з'яўлюся я на свет,
Не забываючы і ран старых, вядома.

Які тут можа быць яшчэ сакрэт:
Ёсць у мяне сябры і ворагі таксама —
Я ж — сын Зямлі, нашчадак Евы і Адама...



За воблакі ўзнімайся, птах сталёвы,
Вышэй да сонца і да зор ляці!
Зямнога прыцягнення рві аковы,
Каб боль душы на хвілю хоць суціх...

Пакінуў я ля ўзлётнай паласы
Жыццёвы друз і бонзаў эківокі...
І пад крылом, бы ў возеры глыбокім,
Плывуць у дымцы горы і лясы.

І колішнія крыўды і напасці
Нікчэмнымі здаюцца з вышыні,
І грудзі поўняцца дабром і шчасцем!

І я згадаў міфічнага Ікара,
Які згарэў, імкнучыся за марай...
Паэта ж сэрца вечна у агні.



Ах, мора, мора! Стомы ты не знаеш...
Як молатам, у берагі грыміш!
І скалы, нават горы скаланаеш,
У непагадзь, як на агні кіпіш...

Гісторыі сівой тут рэха чую
І даўніх бітваў пераможны гром!
Тых галасы, што спяць адвечным сном,
І ты ім, мора, сёння салютуеш!

І параўнацца з сілай тытанічнай,
З настойлівасцю грознаю тваёй —
Народ мой толькі можа гераічны!

Які пранёс скрозь вір стагоддзяў горда
Дух незалежнасці і дух свабоды
І стаў гаспадаром зямлі сваёй!

2 Зак. 3586



Граф Варанцоў — цара сатрап саноўны,
Чые нашчадкі ў Англію ўцяклі,
Меў з паўмільёна дзесяцін зямлі
І восемдзесят тысяч душ прыгонных...

Не дзіва, што ён замак збудаваў
І акружыў яго зялёнай зонай.
То каштавала, ведама, мільёны,
Ды грошы граф з прыгонных выціскаў...

Фарфор, карціны, люстры, серабро,
Скульптуры Афрадыты, Апалона —
Ну не палац, а — казачны харом!

Вяльможа жыў шыкоўней фараона!
...Хаджу, гляджу і радасць узяла:
Вампіраў рэвалюцыя змяла!



Далёка ты! Адгэтуль не відаць...
І не на жарты штосьці зажурыўся:
І не магу ні думаць, ні пісаць,
Замардаваўся я і сну пазбыўся.

Мне мрояцца — магічны бляск вачэй,
Кіпенне валасоў і стан твой горды!
Ну як жа час перамагчы хутчэй,
Адлегласці адужаць перашкоды?

Лічу, як вязень той, я кожны дзень,
І чым бліжэй міг нашага спаткання —
Тым невыносней гэтае чаканне.

Ля мора я блукаю, нібы цень...
Каханне, як зямное прыцягненне,—
Няма нідзе нам ад яго збавення.



За дзень стаміўшыся, суціхла мора,
На караблях успыхнулі агні,
Ахутаны туманам чорным горы,
І кіпарысы спяць у цішыні.

І маладзік пярсцёнкам залацістым
З нябёс скаціўся і блішчыць на дне...
І хораша, і сумна крыху мне,
І успывае даўняе дзяцінства:

Матуля схіленая нада мной,
Хаціна са страхою саламянай,
Вярба. Буслы. Крынічка пад гарой...

Чароўны мора, кедры і платаны,
Экзотыка узрушвае, але...
Дзе нарадзіўся ты — той край мілей!



Саткана нібы з майскае вясёлкі,
З духмяных красак, кветак палявых,
А з-пад расніц пушыстых і даўгіх
Глядзяць вачэй дзве залатыя пчолкі.

А загаворыш — ручаёк звініць,
І вусны, як даспелыя суніцы,
І, нібы казачная чараўніца,
Ты здольна кожнага заваражыць.

Але не хараство тваё здзіўляе,
А тое, што чуллівая такая,
Што падкупляеш шчырай дабратой.

І аднаго ад сэрца я жадаю,
Каб ты была заўжды сама сабой,
Каб шчасце побач крочыла з табой.



Максіма Багдановіча магіла...
Стаю суцішаны ад болю і тугі,
Паэта вобраз ажывае дарагі,
Дыханне вее Беларусі мілай!

І пошум ціхі нівы залацістай,
І ценькі неразвон блакітных васількоў,
Задумны гоман панаднёманскіх бароў —
Гучаць харалам вечным, урачыстым!

Ён Беларусь спяваў, ён быў ёй сынам,
Сваю любоў і песні ёй пакінуў.
І гімн удзячная зямля яму пяе!

...Паэт, згараючы, ўсё людзям аддае,
Сваёй Радзіме і свайму народу,
І ў сэрцах нашых, ў думах ён заўсёды!



Вясной у Крыме — дрэнь надвор'е:
Уранку — лета, апаўдні — зіма,
Лядовы вецер дзьме з нагор'я,
І паратунку ад яго няма...

Затое восенню — раскоша!
Так званы «аксамітавы сезон»...
Ляцяць сюды, хто мае грошы,
Па брыз, па сонца, па азон.

Але, папраўдзе разабрацца,
На Нарачы ці на Дняпры
Таксама можна сіл набрацца.

І слушна кажуць дактары:
Каму, бадай, мясцовы клімат
Мо здаравей прынадаў Крыма.



Над морам чайкі робяць віражы,
Крылом то неба, то ваду скародзяць
І ў небяспечны шлях, у край чужы
З самотным крыкам караблі праводзяць...

І ў крыку іх — трывога, неспакой
І нават нейкая перасцярога.
Так сына выправіўшы у дарогу,
Матуля непакоіцца душой...

І моліцца яна, і ціха плача,
Здароўечка жадае і удачы,
Вяртання хуткага яму дамоў.

І чаек крык мне сэрца разрывае,
Я родны кут і ў сне не забываю,
Стуль клічуць галасы маіх сяброў!



Тут дрэвы штось дзівосныя усе,
Пакручаныя, нібы ад падагры.
І не жывіцай — ладанам нясе
Ад кіпарысаў, мірт і лаўраў.

І сярод куцых кактусаў і пальм
Узносяцца каменныя платаны,
Як дапатопнай эры веліканы,
Якіх не скрышыць, мабыць, і напалм.

І раптам, сэрца аж затрапятала:
З высокае скалы, як горды птах,
Бярозка стройная мяне вітала!

У зерня быў, відаць, нялёгкі шлях,
Пакуль сюды, на горны краж Ай-Петры,
Яго занесла ураганным ветрам.



Саід Ніяз, мой дружа з Ашхабада,
Як прыляціш у свой Туркменістан,
Успомні часам з Мінска Эдуарда —
Патомка сціплага сівых славян.

Мне даспадобы воблік смуглаваты,
Усмешка шчырая і дабрата,
Ты назаўсёды родным братам стаў,
Бо мы з табой — паэты і салдаты.

І ні адлегласць і ні час шалёны
Не змогуць сцерці з памяці маёй,
Як мы пілі у Ялце чай зялёны...

Няхай вятры шумяць над галавой —
Адужаем крутыя перавалы,
Бо нас жыццё агнём загартавала!



Ліст ад цябе! Ліст з Мінска, з Беларусі!
Адразу я адчуў пах роднае зямлі...
Напэўна, там сады ўжо расцвілі
І з выраю папрылятаді гусі?

І сонца залацінкамі вяснушак
Апырскала твой сімпатычны нос,
А у гаі — грай аглушальны птушак,
Што ладзяць гнёзды на суках бяроз.

А тут асыпаліся ўжо каштаны,
І адспявалі чорныя дразды,
І я адзін гібею ад нуды...

Ліст ад цябе! Такі доўгачаканы!
Тулю яго з пяшчотай да грудзей,
І слёзы шчасця просяцца з вачэй.



З Казбекам той Дарсан не параўнаць...
Узлезе на Дарсан і аднаногі!
І таўстуны, каб лішні здор сагнаць,
Брыдуць, пацеючы, крутой дарогай.

Затым, спусціўшыся з гары далоў,
Ядуць з такім шалёным апетытам,
Нібы Гарганцюа той знакаміты!
Назаўтра — паўтараецца ўсё зноў.

І тут з гістырыі я факт успомніў,
Як рымляне лячылі таўстуноў —
Іх пасылалі у каменяломні...

Вярталіся атлетамі дамоў!
Пасля у меру і пілі і елі,
Бо ў «санаторый» трапіць не хацелі.



О, дзякуй, Сонца, што мяне сагрэла!
Што падарыла ласку і цяпло,
Што к чалавеку добрым быць умела
І выкупу за гэта не ўзяло...

Ты не глядзіш на тытулы і рангі,
Якая шчодрая ў цябе рука!
Асыплеш золатам ты бедняка,
У фанзу зойдзеш, саклю і ярангу.

Аднолькава галубіш белых, чорных,
Табе ўсе дзеці, пасынкаў няма...
Прыносіць шчасце — вось твае законы!

Ты гоніш ноч, рассейваеш туман...
Дзе ты — жыццё там, кветкі расцвітаюць,
І шчыра оду я табе спяваю!



На развітанне лапу дай, Мухтар,
Сабака лепшы Крымскага ўзбярэжжа!
Ў цябе, бясспрэчна, асаблівы дар —
Уранку здорава у рыфму брэшаш...

І навічка абнюхаўшы як след,
Ты вызначаеш і беспамылкова:
Хто чалавек сапраўдны і паэт,
А хто ханжа і графаман тыповы.

Ну не скуголь, гарачых слёз не лі,
Так не глядзі расчулена у вочы,
Час расставацца — хочаш ці не хочаш...

Не поўзай перад кожным па зямлі,
Трымай вышэй, Мухтар, прэстыж сабачы!
Інакш не мець табе ў жыцці удачы.



*Аксакаўшчыне*

Тут сосны гонкія, як струны залатыя,
Удар рукой, здаецца, зазвіняць!
І воблакі, загушканыя, кучавыя,
Як лебедзі, на вершалінах спяць.

Тут цішыня. Тут сэрцу супакой.
Смалою пахне, пахне церпкаю іглiцай,
І дыхае цяплом прагрэтая зямліца,
Зялёны мох мякчэй пярыны той.

І я стаю, спрадвечнае красе дзіўлюся,
Гармоніі дабра і хараства,
Ад водару хмялее галава...

О, мілая Зямля! Ты у Сусвеце, мусіць,
Адна, дзе ёсць усё, каб шчасна жыць,
Як мы табой павінны даражыць!



...Ты для іншых — і Муза і цуд,
Для мяне ты — пакуты і пекла.

*А. Блок*

Ты для мяне — не лёгкая прынада,
Ты нібы для Калумба неадкрыты свет...
У чым прываблівасці, сілы твой сакрэт?
Ты поўна супярэчнасцей і згадак.

Цябе не утаймуе порсткі абармот,
Свабодная стыхія ты, як мора!
Зацягваеш у вір або наадварот —
Выносіш к сонцу і надзею дорыш...

То мне маланкаю здаешся шаравой,
Якая з громам выбухнуць гатова
І выдаць свету вогненнае слова!

О, Муза! Радавы каменячос я твой.
Пакуль саюз у нас з табой адзіны —
Яшчэ не час для песні лебядзінай...



Вясна і лета, восень і зіма —
І кожная пара кладзе ў душы адбітак,
Палітры фарб, мелодый меж няма,
І мудрасць з дабратой і прыгажосцю зліты.

І чалавек, прыйшоўшы ў гэты свет,
Каб працаваць, тварыць, мець ад жыцця уцеху,
Заўсёды за сабою пакідае рэха,
Свой на зямлі кладзе адметны след.

Хто на пяску сыпучым, хто на кволым снезе,
А хто на камені, на золаце, жалезе,
Але усе яны сляды любві,

Дастойныя пашаны ў той ці іншай меры.
І толькі след драпежны на крыві
Пракляты знікне, як пачварны дух хімеры...



Калі каханая цябе пакіне,
Яе не лай, ад крыўды не кляні,
Удзячны будзь заўсёды ты жанчыне
За шчасця светлага былыя дні.

Яна прынесла у твой свет будзённы
Вясёлак фарбы і напеў вясны,
На ўсё жыццё застануцца яны,
Як вобраз маці ці святой мадонны.

І калі ты апынешся ў бядзе,
І спатыкацца будзеш у знямозе —
Яна руку падасць і павядзе,
Падзеліцца апошнім у дарозе.

Жанчына — сонца добрае зямлі,
Прад ёю галаву сваю схілі!



Традыцыя тут склалася такая:
Як з Ялты выпраўляецца паэт,
Усе яго на ганку абдымаюць,
І кветак сціплы дорыцца букет.

Запісваюцца адрасы ў блакноты,
Той-сёй аж выраніць слязу,
Успомніўшы, як еў паэт азу
Або салёныя расказваў анекдоты...

Ды вось таксі. Вось сеў у самалёт,
І сантыменты ўсе забыты!
І поўна галава зямных турбот.

Ізноў ты выйшаў на сваю арбіту:
Работа. Дом. Сяброў круг блізкі.
Ці будзе час для перапіскі?



Як раней, я не спяшаю да застолля,
Не шукаю шчырасці ў балбатуноў,
Што за чаркаю гатовы ўзняць да столі,
А за вочы збэсціць, зганьбаваць сяброў.

Ведаю свае я мінусы і плюсы,
І аўгуры тыя непатрэбны мне.
Я не падкі на салодкія спакусы,
Што мне дадзена, дык тое не міне.

Ёсць крытэрыі свае, аўтарытэты,
У пякельнай працы бачу плён я свой —
Кожны дзень ў атаку, кожны дзень у бой!

Хай дымяцца потам і крывёй санеты...
Зоркамі ў зеніце хай ім не гарэць —
Кожны з іх гатовы на жыццё і смерць!

* * *

Што страчана — не вернецца назад, 42
І бедаваць — ніякае карысці.
Калі стары ад сцюжы згінуў сад,—
Ссячы яго — няма другога выйсця.

І маладыя дрэўцы пасадзі,
Па-гаспадарску ім зрабі прышчэпкі,
Наперад у жыцці сваім глядзі —
Разбітага не склеіш ашкалепкі.

Калі вас пуцявіны развялі,
Адзін на аднаго не наракайце.
Чаго шукалі ўдвох і не знайшлі —
Вы паасобку лепей пашукайце.

Само не прыйдзе шчасце на парог,
Удачы вам! Няходжаных дарог!



Усё чаргуецца ў прыродзе:
Мінае ноч і наступае дзень,
То замаразак, то разводдзе,
То хвошча лівень, то смыліць сухмень.

І з чалавекам так бывае:
Накоціць хваля светлая удач —
Шанцуе і душа спявае,
Няма на свеце для цябе задач.

Ды нечакана лёс падводзіць:
Бяда праз дзверы лезе, праз акно —
І дома і ў дарозе шкодзіць...

Ды радуе заўсёды нас адно:
Няшчасці схлынуць — зноў шчаслівы!
Жыццё — прылівы і адлівы.



Калі прыходзіць старасць да цябе —
Ты не палохайся. Усё законна:
Спачатку — май квітнеючы, зялёны,
Каханая і салавей пяе!

А потым — ліпень. Сонца у зеніце.
І ты узняўся на гару жыцця.
Вятры шумяць. І бліскаюць зарніцы.
Багі, здаецца, прад табой трымцяць...

А там — і лістапад. І зморшчыны на твары.
І сэрца перабоі ўжо дае...
Што здзейснена, што застаецца марай.

Глядзіш — і снежань завірухай б'е!
І падсумоўвае жыцця рахункі:
Былі дзе справы, дзе адны лятункі...



На камені злак не расце,
Патрэбна сонейка травіцы,
Вада праточная чысцей,
І птушкам ў клетцы не прыжыцца.

З прычалаў рвуцца караблі,
Імчацца зоркі ўдаль спрадвеку...
І як уседзець чалавеку?
Яму ўжо цесна на Зямлі!

Сузор'е вабіць Андрамеды
І поўны згадак антысвет...
А неўтаймованы паэт

Рычаг шукае Архімеда,
Каб свет душы ускалыхнуць,
Каб радасць кожны змог адчуць!



Ідзе з гадамі мудрасць і развага,
І мыслім мы павольней і глыбей,
І не кранае мітусня і звяга,
І цэнім шчырасць, сціпласць у людзей.

Імкнемся на улонне мы прыроды,
Дзе плынь вады, зялёны шум ялін,
Дзе з думамі сваімі на адзін
Гартаеш дні пражытыя і годы...

Не засталося ніякіх ілюзій,
Наперадзе чакае небыццё,
Што рассячэ любы гардзіеў вузел...

А на зямлі кіпець будзе жыццё —
Ў крыві сыноў, у гуле вадаспада,
Ва урачыстасці святла і праўды!



Не шукайце шчасця на чужыне,
Дзесьці за марамі, за гарамі,
Бо туга па дарагой Айчыне
Будзе крочыць след у след за вамі.

Не цурайцеся і роднай мовы,
Што з калыскі навучала маці.
Як для дрэва корань, так і слова
Сілу, годнасць не дае нам страціць.

Продкамі не грэбуйце ніколі,
Бо яны жыццём сваім, крывёю
Здабывалі і зямлю і волю.

І вітайце племя маладое —
Пачалі бацькі, завершаць дзеці
Будаваць свет новы на планеце!



Пра каханне можна сніць і марыць...
Ды ўсяму мяжа свая, пара:
Маладым і месяц і гітара,
А старым — хваробы і хандра.

У мяне адна цяпер дакука:
Як сыноў хутчэй бы пажаніць,
На калені ўзяць малога ўнука,
Да грудзей пяшчотна прытуліць.

Простае здаецца мне складаным,
Мудрасць кніжная, падчас, маной —
Ўсё паблыталася нечакана.

Вабіць не паэзія, а проза
Неадольнай сілаю зямной...
Дзіўная жыцця метамарфоза!



Не помнім дзень свайго мы нараджэння,
Не будзем памятаць і смерці дзень...
Яны прыносяць радасць, засмучэнне —
Не нам, а родным. Так жыццё ідзе.

І ад бацькоў прыняўшы эстафету,
Мы памнажаем скарбы на зямлі,
Мы робім прыгажэй яшчэ планету,
Каб дзеці нам падзякаваць змаглі.

Дык перш, чым развітацца з светам белым,
Павінны мы адвеяць пры жыцці
Ад зерня ісціны усе плевелы...

Каб тыя, каму суджана прыйсці,
Маглі не зло збіраць, а радасць з нівы
І жыць у міры на зямлі шчаслівай!



Гаворацъ, што краса не адцвітае,
А я упэўніўся: усё наадварот —
Цвіце юнацтва, старасць адмірае,
Адвечнага жыцця такі кругазварот.

Гады на твары ткуць свае мярэжы,
І маладосці гарт знікае пакрысе,
І кожны дзень менш радасці ужо нясе,
Звужаюцца тваіх жаданняў межы.

І толькі, як назад я азірнуся,
Здаецца, зноў шуміць паток твайго жыцця!
І я тады не так ужо нуджуся —
Дабро і зло, зман і каханне зведаў я.

І ёсць уцеха нам на свеце —
Адыдзем мы, ды застануцца дзеці.



Не меў я званняў і не меў чыноў,
Цяпер тым больш не прэтэндую.
Я дабрату людскую і любоў
Вышэй рэгалій тых шаную.

Цаню гасціннасці стары звычай,
Адчыненыя ў хату насцеж дзверы,
На слова чалавеку веру,
Люблю пяшчотна мілы, родны край.

Фартунай не пакрыўджаны сваёй:
У ачагу гарыць палена,
Ёсць хлеб і соль, і дах над галавой.

Жыў праўдай на зямлі, сумленна,
Што мог зрабіць я, ды зрабіць не змог —
Адзін суддзя мне, як гавораць, бог.



Прышэліца нязведаных глыбінь Сусвету,
Ад зоркі і да зоркі ты ляціш,
Асыплеш з лёту пылам залатым планету
І зноў у шлях! Пакуль дзе не згарыш...

І ты ў маім жыцці прайшла, нібы камета,
Шырокай, прамяністай паласой,
Дыхнула жарам, зорнаю расой,
Сляды іскрыстыя гарадь яшчэ дагэтуль.

І вобраз мілы твой разлукай не размыты,
Ля сэрца залаты віток валос...
Але у зорак і людзей свой лёс,
Акрэслены свае і трасы і арбіты.

Зачараваны круг не разамкнуць,
І нас шляхі, напэўна, не звядуць...



*Алесі Андрэеўне*
*Самонавай*

Людзей прыязных, шчырых больш на свеце:
Таму й дабро перамагае зло,
Таму і сонца над планетай свеціць,
Таму над цемрай верх бярэ святло!

Таму у полі ніва каласіцца
І пахне людзям соладка жыццём,
Сціраюцца варожасці граніцы,
Прыходзіць шчасце ўсё часцей у дом.

І першынца прыняўшы ў парадзіхі,
Расчулена паляпаўшы рукой,
Гаворыць доктарка з усмешкай ціхай:

— Гэй, Чалавек! Падай мне голас свой,
Плод узаемнай і любві і згоды,
І носьбітам дабра будзь сам заўсёды!

СМЕШНАГА БАЯЦЦА —
ПРАЎДЫ НЕ ЛЮБІЦЬ.

*Тургенеў*

# САТЫРА

# Казёл на трыбуне

## СОНЦА І АСЁЛ

Хіліўся да заходу дзень,
І сонца з гарызонту доўгія праменні пасылала,
І тут Асёл, які патупаў па зямлі нямала,
Заўважыў велічэзны ўласны цень:
— Віват! Віват!
— Ого! Выходзіць, волат я, асілак!
Вышэй Жырафы і дужэй Слана!
Ну-у, Леў, цяпер заскачаш прада мною, мілы...
Як кахну капытом — дык і хана!
...Назаўтра адбылася іншая карціна —
Стаяла сонца па-над галавой,
Да мінімуму ўкараціўся цень асліны,
Задумаўся глыбока наш герой:
— Ці ж не дзівосна?
Учора волатам здаваўся грозным,
А сёння нейкім шчанюком...

---

Усё адносна,
Залежна пад якім асветлена вуглом.

## ДЗІКІ І ПЛЕМЯННЫ

На Вепрука Свіння накінулася ў абурэнні:
— Ці жонка я табе ці не?
Жыццё такое ўжо абрыдла мне:
Сплю на зямлі,
Ем бруднае карэнне,
Узімку мерзну,
Ўлетку дождж даймае —
Ніякай радасці не маю.
А вунь, зірні, як Кныр жыве з Хаўронняй:
У іх і цёплы хлеў,
І выган з траўкай сакавітай на улонні,
А есці захацеў —
Перад табой заўсёды поўнае карыта,
Цябе памыюць і за вухам пашкрабуць...
Яны жывуць!
— Жывуць...—
Вяпрук перадражніў Свінню сярдзіта,—
Жывуць паўгода, год на добры лад,
А там — адвозяць іх на мясакамбінат,
Мяне не вабіць гэта перспектыва.

---

Крычаць каланізатары пыхліва,
Што слабаразвітым народам дабрабыт нясуць.
А як зірнеш у корань:
Яны з іх скуру жывасіл здзяруць,
Прыносяць не прагрэс, а гора.

## АДМІНІСТРАТЫЎНЫ КРУЧОК

Юры Сяргеевіч, ва ўстанове нейкай Нам,
Карэспандэнцыю уранку праглядаў памалу...
І між пакетаў, дакладных і тэлеграм
Пісьмо адно увагу затрымала.
Ён машынальна яго ўскрыў,
Прабег вачамі,
Падскочыў з крэсла, злосна забубніў:
— Чорт пабяры! Працую тутака гадамі,
Дваіх начальнікаў я пераяжыў
(Быў грэх тут мой, ды гэта паміж намі...),
Але ніколі і ніхто, тым больш з перыферыі,
Мяне крытыкаваць адкрыта не рашаўся,
А тут вось праўдалюб бязглузды адшукаўся!
І факты вострыя, канкрэтныя, жывыя,
Не у брыво, а ў вока, далібог.
Ну-у пачакай жа, пісарчук! Халера!
Прыму, прыму я меры,
Каб рот свой разяўляць не змог...
І, выклікаўшы сакратарку, прадыктаваў загад
Кароткі порстка:

«Штат [illegible]
У пункце Н падкараціць,
Пятрова — разлічыць!»

---

Для іншых крытыка — што ў горла костка.

## ГАЛАНДСКАЯ КАРОВА

Галандская пярэстая Карова
Сустрэла дзікага Лася
Ў дуброве
І загарэлася уся:
«Якія рогі, рост, пастава!
Не тое, што мой аблыселы Бык...
Які прыгожы, малады, рухавы,
Не кавалер, а — шык!»
Прайшлася напаказ віхлястаю хадою,
Пявуча мукнула, павейкамі стральнула раз-другі:
— Ах, любы, дарагі,
Якое шчасце, што сустрэлася з табою,
Ты лёсам мне наканаваны,
Як жыць, як дыхаць без цябе магла!
...У шашнях Лось быў неспрактыкаваны,
І прасцяка Галандка ўмомант распякла.
Як порах ён успыхнуў, ёю захапіўся,
Лізаў то пысу, то яе капыт,
Скакаў, ад радасці свяціўся,
Пачаў падумваць пра сямейны быт.
Але... карова ёсць карова:

Круцілася з Ласём,
Чмурыла галаву ды лёсткі падпускала адмыслова,
А па-ранейшаму жыла з Быком,
Бо хоць стары ён быў, пляшывы, глухаваты,
Але галоўным значыўся па штату.

---

Каб гуму не цягнуць,
Скажу я напаследак:
Жыве каторая з старэнькім дзедам,
Ды пры выпадку любіць падміргнуць
Прывабліва суседу.

## МАТЫЛЬ, ДЗЯЎЧЫНКА І БАБА-ЯГА

Вялікі двор засеяны травой,
Нібы на дыване, там кветкі палымнеюць,
А побач, на асфальце, з Бабаю-Ягой
Дзяўчынка ад спякоты млее.
Ёй хочацца ў цянёк, пад клёны, на мурог,
Туды, дзе Матылёк над краскамі лятае,
Але Яга цікуе, як бульдог,
Пабегаць па траве малой не дазваляе.

---

Парадак — бог,
Але навошта двор, трава і кветкі,
Калі там не гуляюць дзеткі?

## ЛЕКТАР МІТРАФАН

Ў калгас прыехаў Мітрафан,
Каб выступіць перад народам з лекцыяй
На тэму: «Пяцігодка і селекцыя».
Быў эрудыт ён, не прафан,
Вучоную ступень меў нават кандыдата.
Набілася у клуб народу шмат:
Дзяды, бабулі занялі пярэдні самы рад,
А далей — хлопцы і дзяўчаты.
Графін з вадою на трыбуне ўстанавілі,
Праверылі на гучнасць мікрафон
І лектара на сцэну запрасілі.
Наш Цыцэрон
На нос ускінуў акуляры,
Канспект таўшчэзны разгарнуў
І, не ўзнімаючы ад сшытка твару,
Як на хаўтурах, аднастайна зацягнуў
Аб тым, што ведалі даўно
З жыцця, з газет, з кіно.
У зале зашумелі, заляпалі дзвярыма,
Расходзіцца па хатах пачалі,
А лектар вухам не вядзе. Чытае. Лыпае вачыма

(Напэўна, нервы моцныя ў яго былі!),
Бубніць пад нос, канспект гартае паціхеньку.
Нарэшце скончыў. Пот з ілба хусцінкаю змахнуў.
І пераможна ў залу ён зірнуў —
Там вартаўнік адзін драмаў старэнькі...

---

Чаму такі байкот?
Чытаць па пісанаму ўмее і маленькі.
Калі ж ты лектар — зацікаў народ!

— І Крапіву сячэ Мароз!

---

То крытык крытыка разнёс.

## ХАПУГА-БЛЮДАЛІЗ

У Анатоля Віктаравіча — не строгія законы:
Ён можа закусіць, і чарачку кульнуць,
І анекдоцік расказаць салёны,
І ў гэтым нельга чалавека папракнуць.
Загана ў тым,
Што пажывіцца любіць на чужым,
Свайго рубля не выкіне ніколі,
Яго і пачастуй і падарунак паднясі,
А гэтак не зрабі — зачэпак у яго даволі,
Ён напаскудзіць можа ўсім,
Што ні кажы, маленькі — ды начальнік!
Пачне чапляцца, ды круціць,
Лухту ўсялякую у акт валіць...
Каму патрэбен інцыдэнт скандальны?
І, як гаворыцца, узяткі гладкі —
Яму сыходзіла ўсё з рук.
Ды надта ўнадзіўся ён, стаў задужа падкі,
Вось і падстроілі хапузе трук:
Аднойчы завялі у рэстаран
І накачалі пад «завязку»...
Калі ж з рахункам падышоў афіцыянт,

Сказалі так: — Ты піў і еў, васпан,
Дык разлічыся, калі ласка.
— Што-о?! Як?! —
Начальнік ледзьве з крэсла не зваліўся,
Пачырванеў, крывёй наліўся,—
Ды ведаеце вы... Я вас! — І сціснуў ён кулак.
Ды тут жа спахапіўся,
Сціх.
— І разлічыўся?
— А як жа! А потым прэміі пазбавіў ўсіх.

---

Пасада для такіх —
Выгод крыніца!
Ім толькі ты не дагадзі —
Прычыну знойдуць прычапіцца —
Тады хоць з торбаю хадзі.

## ЛЕЎ І РЫСКА

Старога Льва,
Ў якога Львіцу смерць скасіла,
І удавеў ён гады два,
Лясная кошка ахмурыла...
Так красамоўненька пакручвала хвастом,
Прыжмурвала шматабяцальна вочы,
Пяшчотна і прывабліва мурлыкала уночы,
Што цалкам завалодала Ільвом:
— Ну вось што, Кісанька, на даным на этапе
Ўвесь свет сышоўся на табе на клін...
Вось маё сэрца, мая лапа
І пад вянец з табою —
Выхад нам адзін!
Так кошка Рыска львіцай стала.
Жаданне кожнае яе — звярам закон!
У апарат лясны ўсіх родзічаў панастаўляла;
А чужакоў — павыганяла вон!
І нават Льва, перад якім звяры усе дрыжалі,
Яна ўзяла у гэткі абарот,
Што ён хадзіў, нібы аблезлы кот...
А справы ў ведамстве, вядома, заняпалі.

---

Здаецца, іншы выглядае
Львом!
А разбярэшся — жонка села на яго вярхом
І тузае і паганяе.

## ЛІСА І ВОЖЫК

— Чорт ведае, ну што ты за звярына:
Няголены, калючы, нібы дрот,
Не прытуліцца, не прылашчыць — гэткая шчаціна!
Цураешся мяне. Ну што за ідыёт! —
Так Вожыку Ліса натацыю чытала.
І на яго з ухмылкай паглядала.
— Ах, Лісанька, к чаму такі папрок? —
На гэта Вожык адазваўся,—
Каб гладзенькі я стаў, як той Сурок —
Ў зубах тваіх адразу б аказаўся...
Але няма дурных!

---

Мы краснабаяў ведаем такіх,
Багата іх у свеце капітала,
Даверся ім і... цела і душа прапала...

## РАЗЛАД

Чубаты Дзяцел з Дзятліхай сваёй
Уранку пасварыўся,
Назваў яе сівой Савой...
Яна сцярпела. Але ён не супыніўся:
— Ты, кажа, не глядзіш мяне. Дупло ты занядбала.
Ўсё лётаеш чагосьці да Дразда.
Не Дзятліха ты, а... слоў мала.
І Дзяцел выраз гэтакі дадаў,
Што Дзятліху таксама узарвала:
— Ах, вось як! Лаяцца і зневажаць?
Ну тут маёй не будзе і пушынкі...—
І рэчы пачала збіраць,
А з вачанят ад гневу сыплюцца ажно іскрынкі.—
Ты — варвар! Ты мяне ніколі не кахаў,
Ты не даваў мне волі...
— Ну-ну, даволі, даражэнькая, даволі.
Даруй! З гарачкі лішняе сказаў.
Зязюля пра цябе накукавала.
— А ты й паверыў ёй?
Не дзень мы пражылі з табой...
Ці ж здраджвала табе? Ці ж не кахала?

Эх, Дзяцел, Дзяцел...
І паляцела з дупла прэч!

---

Жыццё сямейнае і мір у хаце —
Складаная, выходзіць, рэч:
Паслухай плеткароў — і жонку можна страціць.

## НА ПРЫЁМЕ Ў МЭРА

— Браточкі, быў я на прыёме ў мэра!
Не без таго, вядома, пачакаў...
(Бо сакратарка строгая, халера),
Ах, як ён ветліва мяне прыняў:
Устаў,
Пацiснуў мне руку,
Лагодна усміхнуўся,
Як брату роднаму, як земляку,
У крэсла пасадзіў і далікатненька крануўся
Сямейных спраў —
Як дзеткі, значыцца, як жончына здароўе?
І гэтак пранікнёна ўсё, з любоўю:
— Стары, тваю цыдулку я чытаў,
Ды хоць мяне зарэж ты —
Што зробіш, любы мой,
Ліміты вычарпаны ўсе да рэшты!
Прыходзь ў пачатку года, недзе там зімой,
Што-небудзь падшукаем.
Прывет. Да пабачэння. Я спяшаю.
...Прайшло з паўгода. І на прыёме я ізноў.
Ізноў той мэр лагодны, ветлівы і звышласкавы,

І ў нейкім квартале гатоў
Мае кватэрныя утрэсці справы...
Ну, словам, казачка пайшла пра белага бычка...

---

Я асуджаю грубасць вахлака
І абыходлівасць вітаю:
Чуллівую душу, адкрыты твар,
Ды асабліва тых я паважаю,
Хто слову гаспадар!

## АЛІСА

Аліса — бабка шумігай!
Хаця бальзакаўскі рубеж даўно адкукавала,
Але ў тыраж сябе пакуль што не спісала,
Яшчэ гатова на пярэдні край!
Падбеліць валасы, падмажа губы,
На вочы цені густа навядзе,
Нацягне шчыльненька штаны-раструбы —
Дык чорта нават з розуму звядзе!
...Перад начальнікам пакручваецца,
Нібы прад люстэркам:
То персі дэманструе, то адваротны агрэгат,
То локцем чыркне,
То з вачэй трасіруючы выпусціць снарад —
Ці трэба, ці не трэба, з кожнаю паперкай
Да шэфа рвецца на даклад.
Хто выстаіць супроць такой атакі?
Хіба жалезны робат-аўтамат...

---

Ну як не напісаць тут байкі?

# СВІННЯ І КАЗЛЯНЯ

Па волі лёсу
Свіння начальніцаю стала!
(Ці ж мала парадоксаў?)
Хвост закруціла, лыч задрала,
Шчаціну настабурчыла дыбком,
Ідзе, калышацца, з пагардай паглядае,
А як жа! Нейкую яна уладу мае
Над дваром!
Як раптам Казляня ёй на шляху трапляе:
— Рох, рох! —
Яна штурхнула Казлянятка лычам груба,—
Чаго ты скачаш? Змарнаваў мурог.
Няма ад вас ніякае рахубы.
Здаецца, маладзён,
Мог пастаяць на месцы смірна,
Ці паляжаць у лужыне ля свірна.
Дык не ж! Адразу бачна — ветрагон...
Ўсе крошкі падабраў ад таты.
На гэты час
Якраз
Казёл тут апынуўся баявы, рагаты

І на абразу так сказаў Свінні:
— Яшчэ малога толькі лычам закрані —
Табе не пройдзе дарам гэта!
Няўжо не памятаеш, як мінулым летам
Сама ты гойсала па ўсім двары?
Ніхто цябе не біў, не лаяў,
Бо ты ж была малая.
Дык лыч не задзірай занадта дагары...

---

Суседка у мяне такая,
Начальніца, як кажуць, над мятлой,
А гонару, а пыхі — божа мой!

## ПА ВОПЫТ

Каб вопыт пераняць,
Рашылі на завод адзін
Свайго прадстаўніка паслаць:
— Бяры камандзіроўку, атрымай «валюту»
І, не губляючы мінуты,
Сядай у самалёт
І выпраўляйся ў шлях-дарогу! —
Дырэктар пасланцу казаў даволі строга,—
Прыгледзься, як працуе там народ,
Унікні, разбярыся,
Чаму там план перавыконваюць штогод,
Якую тэхніку укараняць на прадпрыемстве узяліся,
Бяры усё на карандаш!
Бо не ў турысцкі выпраўляешся ваяж...
...І вось праз месяц,
На вытворчую нараду
З'явіўся пасланец з дакладам:
— Таварышы! Шаноўны сход!
Каб не разводзіць лішнія дэбаты,
Што ўбачыў я — дык смеху варта —
Дым выпускае той завод...

А разабрацца цяжкавата,
Хто тут «мудрэц»:
Дырэктар? Пасланец?
Адно бухгалтарскія сведчаць нам праводкі —
На вецер кінуты і не малыя сродкі.

## ДАБРАДЗЕЙ

Улетку дабрадзей
У вёсцы роднай прыгасціўся,
На прызбе седзячы, сярод сваіх людзей,
Ён з пыхаю хваліўся:
— Я, землякі, вам друг і брат,
Дзеяч грамадскі, не келейны,
Абраннік ваш, слуга надзейны!
І гэта ж факт,
Што я ад плуга, ад зямлі,
І ганаруся я заўсёды,
Што выйшаў я з народу!
...Тут голас ззаду падалі:
— Што выйшаў ты з народу — гэта зразумела,
Але адгарадзіўся сакратаркамі ад мас,
А мы б жадалі, каб да нас
Гарнуўся і душой і целам.
А то, вунь цётка Тэкля, з хворым на руках дзіцём,
Праседзела дзень цэлы,
І не патрапіла к табе вось на прыём...
— Вы летась абяцалі,—
Ўмяшаўся у размову трактарыст,—

Прысланць калгасу для камбайнаў запдэталі,
А дзе яны? Нам не патрэбен свіст...
— А дачу гэткую адгрукаў,
На «Волзе» гойсаеш, як пан...
Глядзі! — прамовіў аднарукі
Стары таварыш, партызан.—
Раней за справы браўся з аганьком,
Змагаўся з коснасцю, хапугамі, руцінай,
Не пляскаў марна языком,
Быў абавязак у цябе адзіны:
Кожным днём:
Дбаць пра людзей, пра калектыў заўсёды,
А не пра ўласныя выгоды.
Мы за дзвярмі дубовымі, абітымі цыратай,
Паўпрэда бачылі свайго,
А ты ператварыўся ў бюракрата!

---

Таго
Народ шануе і вялікай уладай надзяляе,
Хто за яго стаяць гарой гатоў,
Хто ж толькі пра сваё карыта дбае
І ў вочы пыл пускае —
Скідае з седала далоў.

## ШАША — НЕ КОСМАС

Фартуна прывітала Кузьміча:
(Хаця паверыць цяжка ў гэта)
Па латарэйнаму білету
Ён выйграў «Масквіча»!
І, здаўшы на правы па блату,
Сеў у машыну, паднаціснуў на педаль
І зухавата
Выскачыў на магістраль.
Спуск, ці пад'ём, ці паварот,
А ён увагі не звяртае —
Усе машыны з ходу абганяе,
Ляціць, як заркалёт,
Пакурвае цыгарку, ды спявае!
І націскае ўсё мацней на газ...
— Вось гэна ас!
— Напэўна, звар'яцелы янкі?
Ну не інакш, спяшаецца на той ён свет...
— А можа наш Іван «пад банкай»?
— Адумайся! — крычаць яму услед,—
Ты ж не на танку...
Ды Кузьмічу хоць кол на галаве чашы!

Але не пажартуеш на шашы:
Ён пры абгоне крута збочыў
І на сустрэчны самазвал наскочыў,
Загінуў наш ліхач
І нават не перажагнуўся...
І вось хаўтуры. Музыка. І жонка ў плач...
Ды тут Кузьміч... прачнуўся!

---

Сон гэты — ліхачам урок,
Шаша — не космас! Не спяшай, браток.

## ГАЛАВАМЫЙКА

Таптыгін Воўка да сябе паклікаў
І, узлаваны не на жарт,
Яму наладзіў добрую галавамыйку:
— Чаго ты варт?
Калі парадак будзе на дзялянцы?
Пусціў ты справы ўсе на самацёк...
Ты Воўк або не Воўк?
Табе паабгрызаюць вушы хутка Зайцы.
...Ад перапуду Шэры ледзьве ногі павалок...
Ну, а Таптыгін касалапы,
Засунуўшы у зяпу
Лапу,
Перавярнуўся пазручней на бок
І да вясны задаў ён храпу,
Падумаўшы: «А будзе толк!»
І сапраўды, Воўк меры прымяніў крутыя,
Як кажуць, пары даў!
З Лісіцы стружку ён з разгону зняў,
А Ліска Зайку ўжо намыліла без жалю шыю,
А той Крата з пясочкам перацёр,
А Крот, вядома, на Мурашцы адыграўся...

Гудзе сыр-бор!
А па-сур'ёзнаму ніхто там справай не заняўся.

---

Мой стрэл не па звярах,
Па тых балбатунах,
З якімі кожны, мабыць, сустракаўся.

## КАЗЁЛ НА ТРЫБУНЕ

Авечкі, Козы ды Каровы
Сабраліся на свой вытворчы сход,
Каб план па малаку зацвердзіць новы
На наступны год.
Гаворка пацякла аб нарыхтоўцы сіласу і сенажу,
Кармазапарніках,
Электрадойцы.
Ужо наважыліся падвясці дэбатам тым мяжу,
Як тут Казёл замэкаў што ёсць моцы:
— Таварышы!
І я хачу сказаць! —
І, ўскочыўшы на пень-трыбуну,
Пачаў размахваць капытом і горача агітаваць,—
Нам спадзявацца нельга на фартуну...
Куды ні глянь —
Прагрэс кругом!
І нам пара паварушыцца —
Не раз на год, а два разы цяліцца,
І з мясам будзем мы і з малаком!
Вось дзе рэсурсы нашы і рэзервы,
І перавыканаем, безумоўна, план!

4 Зак. 3586

---

Пражэктамі казыча нервы
Часам гарлапан,
Ды звон пусты ягоны —
Свае ў прыроды ёсць законы.

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Зайчыны век кароткі, а не доўгі,
Ды не шыкуе, а гаруе ён часцей,
Не мае сталае бярлогі,
Не да вяселля тут, не да гасцей...
Ды што паробіш? Без хацення,
А трэба адзначаць
Дзень нараджэння —
Традыцыі старыя трэба шанаваць!
І Заяц пастараўся:
Палянку закуссю уставіў і пітвом,
Каб кожны госць па густу частаваўся
І ўспамінаў яго дабром.
Вось і запрошаныя пачалі збірацца —
Барсук, Вавёрка, Воўк, Кабан, Ліса, Янот,
Здаецца, можна і за чарку брацца,
Але рашыў звярыны сход
Мядзведзя дачакацца.
Што ні кажы, ён лесу гаспадар,
І не лічыцца з ім — няма фатыгі,
Але нарэшце паявіўся і Таптыгін...
Шчаслівы юбіляр

Сардэчна да стала ўсіх запрашае,
Вось госці за яго здароўе келіхі ўзнімаюць,
Усё ідзе нібы як след.
Ды штосьці ля Мядзведзя пачалі ўсе завіхацца,
З ім чокацца і абдымацца,
Спяваць у гонар Касалапага куплет,
Хваліць, што мудрасцю з ім Зубру не зраўняцца!
З-за гэтай мітусні і гаманы
Забыліся пра Зайца,
Забыліся, дзеля чаго сабраліся сюды яны.

---

О, падхалімы! І пад чаркай знаюць справу:
Начальніку пяюць заўсёды славу!

## ХВАЛЬКО

Індык, бадзяга сухапутны,
Які баяўся, як агню, вады,
Аднойчы крыкнуў голасам магутным:
— Хто хоча плаваць? Гэй, сюды!
Хай часу той дарэмна не губляе,
Вас навучу і брасу я і батэрфляю!
Прыгледзьцеся да Гусака
Любога ранга —
Не лапа у яго, а ласта акваланга,
Таму не страшна Гусаку рака.
А вывад тут напрошваецца сам сабою:
Усе на ласты і ў ваду за мною!
— Хвіліначку! —
Тут Певень заартачыўся бывалы,—
Рака — не жарт,
Так патапіць нядоўга куранят,
Нырца дай сам, а потым мы пасунемся памалу...
— Ну што ж! — І, апрануўшы ласты на хаду,
Індык на вышку узабраўся
І сігануў, аж бліснуў, у ваду!
Як сігануў — так і схаваўся,
Ніхто яго на беразе не дачакаўся...

---

Мне Індыка шкада,
Але не за сваё лепш не бярыся,
Бо здарыцца бяда.
Ды самазванцы не зваліся.

## ЛІСА-РЭВІЗОР

Загадваў птушнікам Барбос,
Адносіўся з душой да гаспадаркі,
Тут сакаталі плімутрокі і ленгорны і цацаркі,
І маладняк шумлівы рос.
Ды як Барбос ні працаваў сумленна,
Знайшоўся злыдзень, напісаў данос
Кудысьці патаемна.
І вось прысланы рэвізор
З інстанцыі аўтарытэтнай —
І хто б вы думалі: Гусак? Індык прыкметны?
Ды не! Лісіца Цімафееўна з'явілася на двор!
І пачала прынюхвацца ды калупацца...
Барбос, хаця не адчувае за сабой віны,
Але міжволі стаў дрыжаць і хвалявацца,
Начамі трызняцца дурныя сны...
А Лісанька: — Ха-ха! Хі-хі!
Раскрыю я грахі,
Знайду я злодзея, хто курачак губіў тут душы,
Хто пеўнікаў гаротненькіх паеў...
Барбос павесіў хвост і вушы:
«Мо, сапраўды, дзе што недагледзеў?»

Але ідэя мільганула, ён павесялеў:
«Дай спакушу Лісічку!» —
І ёй падсунуў у партфель індычку.
І рэвізорша... памякчэла, знішчыла свой акт:
— Да пабачэння, сябар!
Не пацвярджаецца пісьма ніводзін факт...

---

Якую сілу мае хабар!

## НАКАЧКА ДЗЕЛЯ ПРАФОРМЫ

На ферме, ля варот
Узяў Казла Бык у сур'ёзны абарот:
— Што за камедыя такая:
Дакуль мне валаводзіцца з табой?
Дзе план? Асартымент дзе твой?
Дзе якасць? Дзе рэнтабельнасць, пытаю!
А ты, рагаты казлаброд,
Яшчэ заводзіш шуры-муры,
Залазіш у суседні агарод...
Ты ж як-ніяк — наменклатура!
Не дай ты божа, дойдзе да Ільва —
Зляціць твая дурная галава,
Ды і з мяне здзярэ ён шкуру...
Час і за розум брацца, трасца ў бок!
Падумаць пра сям'ю, пра службу.
Іначай, мой мілок,
Не будзе паміж намі дружбы
І развітацца давядзецца нам.
...Казёл маўчаў, не адгукаўся,
Ён ведаў, што праформа тут адна,
Трос барадой і над Быком у думках пасміхаўся:

«Ну-у замалоў, нібыта з кафедры дацэнт!»,
А заўтра ўжо забыты інцыдэнт.

---

А, братка,
Накачку іншы можа даць!
Не дзеля справы, для парадку,
І каб сябе застрахаваць.

## ПРА ТРУТНЯЎ, АВАДНЁЎ І ПЧОЛ

Сустрэўся Труцень з Аваднём
І жаліцца пачаў суседу:
— Мне Пчолы плацяць толькі злом
І называюць дармаедам,
Ну як сцярпець мне гэткую знявагу?
— Ці ж то бяда? —
Азваўся Авадзень,—
Жывеш ты ў цяпле і кожны божы дзень
Ясі мядок.
Вось пра мяне пусцілі звягу,
Нібыта я зацяты крывасмок...
Мне смерць заўсёды пагражае:
Ледзь сяду на Вала,
Адразу ён хвастом забіць мяне цаляе,
Каб трасца на яго найшла!
— Ды што вам крыўдзіцца і абурацца? —
Прамовіла рабочая Пчала,—
Абодва вы,
Як разабрацца,
Паразіты.

---

О, колькі на зямлі такіх вось, менавіта,
Эксплуатататараў і цмокаў!
Народ іх церпіць да пары...
Рэвалюцыйны вал узнімецца высока,
І згінуць ліхадзеі, крывасмокі, ліхвяры.

## ВОЎК-ДРУЖЫННІК

Воўк у дружыну запісаўся:
«Ну-у, Заяц, пачакай!
Раней выпендрываўся ты, з мяне ўсё пасміхаўся
І за Мядзведзевай спіной хаваўся,
Цяперака не выкруцішся, знай,
Не дапаможа й Касалапы,
Патрапіш хутка ў мае лапы!»
І вось на танцпляцоўцы, вечарком,
Калі Зайчо з Вавёркаю каленцы выраблялі
Пад модненькі матыўчык «Халі-галі»,
Сустрэўся даўгавухі нос у нос з Ваўком:
— Ага! Папаўся! —
Заклацаў ікламі разлютаваны Воўк,—
Ізноў п'яны? Ізноў ты налізаўся?
І у камору,
Што пад эстраднаю пляцоўкай,
Зайца павалок,
Дзе размяшчаўся штаб дружыны.
...Не ведаю, з якой прычыны:
Ці накруцілі добра Зайцу хвост,
Ці рэбры палічылі,

Але ён танцпляцоўку абмінае за дзве мілі
І за дружыннікаў не агалошвае свой тост...

---

У воўка — воўчая натура,
А людзі — не звяры,
І штаб дружыны — не баксёрскі рынг,
А месца выхавання і культуры.

## ШЫШКА

На вершаліне векавой сасны
Пагойдвалася Шышка ганарліва
І разважала услых пыхліва:
— Якія ўнізе там ўсе маленькія і смешныя яны,
Капошацца, стракочуць, мітусяцца,
І ночы ў клопаце і дні,
А вось да сонца і да зорнай вышыні,
Як я — ім не узняцца!
Я сустракаю першая зару,
З вятрамі, з воблакамі гавару
І сонейка заход апошняй назіраю,
Я над прасторай і над часам ўладу маю!
...Хвалебны маналог яна б, бадай, далей вяла,
Ды хмара цяжкая, сівая
Тут неба ўсё завалакла...
Пярун ударыў. Бліскавіца заскакала.
Дыхнуў вятрыска, нібы велікан,
І Шышку з вершаліны ўміг сарвала...

---

**Чынуша, памятай пра ураган.**

## АРЭХ І ЖАБА

Па лесе Жаба спакваля скакала
І пільна паглядала навакол,
Яна спажыву для сябе шукала,
А ў гэты час арэх упаў на дол.
— Паслаў мне бог дарунак! —
Затуркацела Жаба на ўвесь лес,—
Я чула, што арэх — далікатэс,
Найлепшы на зямлі ласунак!
Вось зараз я арэшак раскушу
І пасмакую, адвяду душу!
І, ў рот паклаўшы плод саспелы,
Яго паспрабавала раскусіць,
Напялася, ажно пазелянела,
Але з арэшкам анічога не змагла зрабіць...
(Бо Жаба, ведама, зубоў не мела!)
І, выплюнуўшы вон знаходку з раздражненнем,
Раздзёрла
Горла,
Закрычала з абурэннем:
— Ды гэта ж смех,
Пусціў лайдак якісьці качку,

Што цуд прысмак лясны арэх,
А я й паверыла, дзівачка...
Ды гэта ж не ласунак — дрэнь!

---

Так іншы пачынае абурацца,
Наводзіць цень
На ясны дзень,
Бо сам да сутнасці не здольны дакапацца.

5 Зак. 3586

## ЛЯ РАЗБІТАГА КАРЫТА

Прузына —
Суперстыльная жанчына:
На ёй то парыкі, то фантастычныя прычоскі,
Шыкоўнейшыя уборы з экзатычных, імпартных
Тканін,
На шыі, на руках — суцэльны ювелірны магазін,
Замест спадніцы — клёш матроскі,
Нарошчаныя вейкі, манікюр —
Размаляваная, стракатая, як папугай заморскі,
А ў галаве, даруйце, чмур!
Вядома,
Што яе мужык
Адзін стараецца, як кажуць, для сям'і, для дома,
Бо жонцы ён пярэчыць не прывык.
Але і ён аднойчы ўзбунтаваўся:
На кухні посуд мыў, з анучай завіхаўся,
А тут Прузына падышла,
Пацалавала і за шыю абвіла:
— Ты ведаеш, мой мілы,
Што я надумала, што я рашыла?
На тэхніку амаль усе суседзі перайшлі,
Машыну мае крук і жаба...

А я чым горш? Зірні — якая баба!
Купляй мне «Жыгулі»!
— Ча-го?! — нібыта ўджалены,
Падскочыў муж да столі —
А можа, самалёт? Ці паравоз?
Ну і падкінуў жартаўніцу лёс!
З табой не пасумуеш, далібог, ніколі...
Я ж інжынерыкам працую радавым,
А ў нас жа дзетак двое,
І на акладзе не разгонішся адным,
Жыццё у казках толькі залатое...
...Але Прузына ў хаце галава:
На Месяц хоць ляці, на Марсе хоць вядзі раскопкі,
Усё мне трын-трава,
А «Жыгулёнка» падавай, і кропка!
...І муж на тры гады завербаваўся ў Магадан.
Лісты спачатку дасылаў, а потым прывітанні,
Нарэшце, аліменты без пасланняў...
Ну карацей, Прузынін з трэскам праваліўся план:
Ні «Жыгулёў»,
Ні мужа...

---

Не квапся на вялікае задужа,
Найлепшы капітал — любоў.
Пагонішся за шчасцем казачным нібыта
І можаш апынуцца ля разбітага карыта.

## ДРОЗД І ДАРАДЧЫКІ

Апершыўся даўно ўжо Дрозд,
Аформіліся крылы, хвост,
Прарэзаўся і голас індывідуальны,
І Дрозд лятаў,
І, натуральна,
Ён спяваў,
Свае выводзіў трэлі!
Ды неяк на яго дарадчыкі населі:
— Э, браце любы,
Тут штосьці, дзесьці крышачку не так,—
Кіўнуў цяжкою дзюбай
Грак,—
Бравур напрошваецца, так сказаць, мажор,
А ты чамусьці, любы браце,
За лейтматыў узяў мінор...
— Рытмічна вяла! — Кінуў з елкі Дзяцел,—
На кожнай ноце б я зрабіў акцэнт!
— А мне здаецца,—
Сыпнула Сарока, нібы з аўтамата,—
У дывертысмент
Патрэбна падключыць таката.

...Тут увязаліся ў дыскусію Дзяркач, Варона, Верабей,
І кожны мудрыя даваў парады...
А толькі сціплы, пасівелы Салавей
Сказаў да ладу:
— Калега, слухай ды не ўсё прымай,
Заўсёды будзь самім сабою!
І паляцеў у гай.

---

Я згодзен з думкаю такою.

## РАЎНІВЫ МУЖ І КЕМЛІВАЯ ЖОНКА

Мікіта прыхварэў...
Ну што ж, бывае!
Ляжыць у ложку, вохкае і цяжка уздыхае,
Маўляў, на працы, як свяча, згарэў...
Загаравала жонка маладая,
Мікіта хітра на яе зірнуў
І кажа спачувальна:
— Галубка, цяжка пакідаць цябе адну,
Ты не лічы, што гэта амаральна,
Журбою не марнуй сябе дарма,
Знайдзі хутчэй па сэрцы друга.
Ну чым не пара — наш сусед Кузьма?
Рабочы чалавек, не п'яніца, не валацуга
І на цябе з замілаваннем ён заўсёды паглядаў,
А ты ад позіркаў ягоных аж квітнела ружай!
Ён будзе добрым мужам...
Ну так ці не? Патрапіў я ці маху даў?
Ён падабаецца табе. Не трэба адпірацца!
Кажы сумленна. Мне ўжо час туды збірацца...
— Ах, мужанёк! З гарачкі нешта ты вярзеш.

У чым мне прызнавацца?
Сто год ты можа пражывеш...
Куды тады ад рэўнасці тваёй падзецца?

---

Жывы жывому давярай,
А час праб'е — парады не давай,
Сама жанчына ў гэтым разбярэцца.

## ЗЯМНЫЯ ІСЦІНЫ

(Пачынаючаму кар'ерысту)

З-за глупства з жонкай не сварыся,
Сваё начальства паважай,
Гарэлкі выпіў — спаць кладзіся
І грошай лепш не пазычай.
Трымай язык свой за зубамі,
Дзе большасць — ты туды кіруй,
І не з сябрамі, а з чынамі
Заўсёды сувязі мацуй.
Наперад лепш не вытыркайся,
Ды і ў хвасце ты не брыдзі,
Зрабіў прамашку — дык пакайся
І дурню часам дагадзі.
Цябе заўважаць і ацэняць,
Пасаду хлебную дадуць,
А грызці як пачне сумленне —
Не раскісай, жалезным будзь.
А як узнімешся угору —
Тады з пагардай зверху чхай!
...Хапаць не трэба з неба зорак,
Ты ісціны зямныя знай!

# Усмешкі продкаў

(Па матывах класікаў)

## САБАКА І ЗАЯЦ

(З Эзопа)

Злавіў Сабака Зайца
І распачаў вясёлую гульню —
То да грудзей прыцісне і давай лізацца,
Хваліць і Зайца і яго радню:
— Ах, дарагі мой сябра, любы дружа,
Табе не вораг я, а брат,
Усіх вас паважаю дужа!
Чаго калоцішся, дурненькі?
Няўжо ты мне не рад?
То разамкне абдымкі, дасць свабоду,
Маўляў, скачы, бяжы!
Перад табой адкрыты свет!
Ды тут жа ўслед
Кідаецца і з ходу
Хапае Зайца моцна за хрыбет.
— Паслухай, псіна,—
Бедалага абурыўся,—
Што-небудзь ты адно рабі:
Дай волю мне альбо забі,
Ад дэмагогіі тваёй я ўшчэнт змарыўся...

Даруй, Эзоп, за вольны пераклад
І за мараль, з жыцця узятую,
У нашы дні, як сотні год назад,
Гульня бывае дзе-нідзе у дэмакратыю.

## ЛЕЎ І ЗАЯЦ

**(З Арыстоцеля)**

На Зборышчы звяроў прамову Заяц гаварыў:
— Мы раўнапраўныя ва ўсім стварэнні!
Леў грывай страсянуў у абурэнні:
— А дзе ж твае клыкі і кіпцюры?
Мне пакажы бліжэй іх, мілы!
Той Заяц драпануў падалей ад бяды...

---

З трыбун прамоўцы шмат ліюць вады,
Ды языком не пераможаш сілы.

## МАЛЮСК І МЫШАНЯ

(З Сіманіда Кеоскага)

Прылівам вынесены на пясок,
Ляжаў Малюск, раскрыўшы злёгку створкі.
Тут выскачыла Мышаня з якойсьці норкі,
Каб адшукаць што-небудзь на зубок.
На лапкі ўстала, пакруціла галавою
І лёгкую здабычу ўбачыла перад сабою:
— Парадак! Сёння я жыву!
Паслаў мне бог шыкоўненькі сняданак!
Ды толькі ў шчыліну ўшчаміла галаву,
Як створкі ракавіны сціснуліся нечакана —
Само спажывай стала Мышаня...

---

Параду порсткім дам такую я:
Не кідайцеся стрымгалоў, паварушыце перш мазгамі,
Бо трапіце у пастку самі.

## ЭЗОП І САБАКА

(З Арыстафана)

Эзоп вяртаўся з дальняе дарогі,
Прамёрз, прагаладаўся, падаў ад знямогі,
І, ўбачыўшы харом,
Пастукаў ён у браму.
Тут выскачыў вяльможа, загрымеў, як гром:
— Чаго ты бразгаеш? Такую тваю маму!
Ні хлеба, ні начлега, ні вады табе няма...
Хай трасца на цябе! Уджаліць хай вужака!
Эзоп сказаў: — Я стукаўся дарма,
Не чалавек жыве тут, а сабака.

---

На байкароў заўжды ішла атака.

# БОЛЬ І АСАЛОДА

**(З Платона)**

Людское сэрца цешыць Асалода,
І радуецца чалавек!
Але капрызны лёс заўсёды
Сюрпрыз падкіне, як на здзек...
Каханне гасне, запаўзае здрада
І раз'ядае сэрца, нібы соль —
Адчай, туга... І памірае радасць...

---

Дзе асалода, там і боль.

## ЛЕЎ І БЫК

(З Нічыпара Васілакі)

Быка убачыў Леў,
І апетыт звярыны моцна разгуляўся,
Але ранейшых сіл і спрыту ўжо не меў
І на рагастага Быка наскочыць пабаяўся,
Тады ён вырашыў як-небудзь абдурыць:
— Ах, дружа мой,
Які ты рослы,
Дужы і прыгожы,
Лабасты!
Розум, пэўна, ёсць...
Аднога я не ўцямлю штосць —
Завошта пакараў цябе так божа:
На галаве цягаеш ты цяжар,
Вось я, ты бачыш, цар,
А рог не маю!
Табе таксама раю
Іх, як мага хутчэй, пазбыць.
...Паслухаўся парады Бык і рогі скінуў
І стаў ахвярай Льва.
Загінуў.

---

Як непрыяцель стаў цябе хваліць,
Засцерагчы я мушу:
Не растапырвай надта вушы,
Бо можна галаву згубіць...

## РОТ І ВОЧЫ

(З Дзіона Хрысастома)

Трапляюцца такія вочы:
Ад зайздрасці гатовы выскачыць з арбіт,
Ў іх прага хцівая гарыць па-воўчы,
Расце зласлівы апетыт.

---

На Чалавека Вочы падалі у суд:
Маўляў, Рот кожны год з'ядае
Гарчыцы з пуд,
А ім і каліва ніколі не трапляе...
Без цяганіны, у адно імгненне,
Суд вынес строгае рашэнне,
І, выслухаўшы прыгавор,
Прамовіў Чалавек: —
Вачам я дам гарчыцы,
Але хай будзе угавор,
Каб зноў са мною не судзіцца.
Накінуліся Вочы на «ласунак»
І есці прагна пачалі,
Ды раптам енк і лямант узнялі:
— Як церпіць Рот, вытрымлівае Шлунак?

Атрута гэта! Гарката з гаркот!
Вады! Вады! Ратуйце! Жыць мы хочам!
...Пасля таго ніколі Вочы
Не заглядалі з зайздрасцю у Рот.

## САБАЧАЯ ХАТА

(З Плутарха)

Мароз, і снег, і люты вецер.
Пёс у клубок скруціўся і дрыжыць,
Кляне усё на свеце
Ды марыць: «Толькі б да цяпла дажыць,
Збудую гэткую сабе я хату.
Мяне не возьмуць аніякія ўжо халады!»
...Прыйшла вясна, павеяў ветрык цеплаваты,
На рэках затрашчалі і заварушыліся ільды,
Прыгрэўся Пёс і пазяхае з асалодай,
Няма яму цяпер бяды,
Не ганіць ён, а дзякуе прыроду.
«Ах, збудаваць калісьці я збіраўся хату?
Вось перажыў зіму і зноў перажыву,
А будаўніцтва — клопату багата!»

---

Намеры, планы поўняць галаву,
Ды толькі там кіпіць работа,
Дзе ёсць напор, а не лянота.

## МОМ І АФРАДЫТА

(З Елія Арысціда)

На троне велічна сядзела Афрадыта,
Скараючы усіх і прыгажосцю і чароўным харастВом,
Ды тут з'явіўся Мом
З ухмылачкай на вуснах ядавітай:
— Нішто сабе, хе-хе, кабетка смакавіта,
Нагледзішся і недалёка да граха...
Кругом, здаецца, люкс! Ды вось, ха-ха,
Крывыя у багіні нашай пяткі...

———

Заўсёды знойдзе той «агрэх»,
Хто недахопы выкалупвае, шукае непаладкі,
Каб збэсціць добрае, узняць на смех.

## ЛІСІНАЯ ПРАЎДА

**(З Бабрыя)**

Зайчо дазнацца захацеў:
А што такое праўда?
Скакаў, скакаў па лесе і Лісіцу ён сустрэў.
— Дзень добры, куманёк!
Ах, як табе я рада!
Адкуль? Куды? З якой прычыны шлях трымаеш? —
Спыніла рыжахвостая Зайчо
І палажыла лапку на плячо.
— Куды? Чаго? Ды праўду я шукаю...
— Што-што? Ах, праўду! —
І Ліса зарагатала,—
Дык ведай, у жыцці нікому я ніколі не збрахала,
Ну і табе параду дам:
Калі яе дазнацца хочаш —
Не вер ні краснабаям, ні балбатунам,
Глядзі ў душу, глядзі у вочы
І знойдзеш там адказ дакладны,
Хто люты, хто не люты звер...
Не верыш? Дык правер!
...Зайчо той порсткі неадкладна
Ў вачах лісіных праўду стаў шукаць.

---

А ці знайшоў яе, уласна,
Нам некага спытаць,
Бо Зайка знік... Куды? І мне не ясна.

## АЎЧАР І МЯСНІК

(З Максіма Цірскага)

Мяснік ішоў кудысьці з Аўчаром
І па дарозе Барана прыблуднага сустрэлі.
— Вось зараз шахну я яго нажом,—
Сказаў Мяснік,— два дні, як мы не елі...
— Чакай! — стрымаў яго Аўчар,—
Зірні, які рагасты ён, пагляд такі высакародны,
Руно даўгое і бліщчыць, як жар,
Вытворнік перад намі племянны, чыстапародны.
Маім авечкам божы дар!
Ды сапраўды Баран быў зух,
І забляяў ён жвава:
— Пасланы Зеўсам я ахоўваць і лугі і травы,
Хто дакранецца да мяне — той спусціць дух!
І топнуў у зямлю нагою.
Затрэсліся спалохана абое
І драпанулі хто куды!

---

Каб выбрацца з бяды,
Нябога
Заўсёды прыплятае бога.

## ГАРАДСКАЯ І СЕЛЬСКАЯ МЫШЫ

(З Гарацыя)

Мыш сельская сяброўку з гораду прымала
І чым багата
Пачаставаць сардэчна была рада:
Нясе авёс, гарох, сухія ягады, шматочак сала,
Найлепшы і ласунак і прысмак.
Пакаштавала госця тое-сёе абы-як
І гаспадыні так сказала:
— Ну, дзякую за хлеб, за соль,
У крыўду не вазьмі, два словы мне дазволь —
Ну што за радасць, дарагая,
Адной табе у гэткай пушчы жыць?
Спачыну ты і дзень і ноч не маеш,
У клопатах ты ўся, каб дзе што раздабыць...
Зірні ты на сябе, як загрубела,
Адзічэла,
Убогае жыллё і, замест мэблі, валуны.
Як я жыву, ты б паглядзела,
Ды гэта ж казка, рай зямны!
Харомы царскія, пярыны, дываны,
Сталы аж ломяцца ад рознай ежы,
Вакол крышталь і золата зіхціць,

Штоноч — то баль, уражанняў багата свежых.
Наш век кароткі,
Дык трэба ж з радасцю яго пражыць!
Хадзем са мною,
Пара табе вялікі свет адкрыць.
Спакушана была Мыш сельская прамоваю такою,
І родны кут абрыдлы стаў —
Памкнулася за марай залатою...
Вось і палац і ложы са слановай косці,
І на сталах заморскіх мноства страў,
Аж кругам галава ідзе ад прыгажосці!
Мыш гарадская сельскую частуе:
— Ну, як?
— Ах, не пытай! Раскошу не ўяўляла я такую,
Няўжо жывуць у горадзе ўсе так?
Ды не наспела расчыніць Мыш гарадская рота,
Як зарыпелі дзверы і у залу з лёту
Малоскіх зграя уварвалася сабак...
Ускочылі спалоханыя Мышы,
Забегалі, шукаючы ратунак свой,
Тут сельская сказала гарадской:
— Бывай! Мілей раскошы мне лясны зацішак,
Прытулак бедны, але мой!

## БЫК І ЦЯЛЯ

(З Федра)

Прасунуць галаву у яслі так і сяк Бык хоча,
Ды рогі зачапіліся. Што ж тут рабіць?
— Ты шыю павярні! — Цяля рагоча.
Бык ускіпеў: — Мяне вучыць?!
Я гэта ведаў да твайго на свет з'яўлення...

---

Прызнаць памылку не дае нам самазахапленне.

## АДКУЛЬ ПАЙШОЎ РУМЯНЕЦ

(З Рыгора Назіанзіна)

Дзе шчыры чалавек, а дзе двудушны,
Дзе добры, а дзе злы — не разабраць ніяк...
І вырашыў пан Бог разумна, слушна
На кожнага накласці пэўны знак:
У злога жоўць каб разлілася плямамі па твары,
У добрага на шчоках ружы каб цвілі.

---

Вякі прайшлі,
Ды як раней анёла не адрозніш ад пачвары,
Дзе зло, а дзе дабро —
Пад маскай схована сапраўднае нутро.

## ТРЫ ГРОНКІ ДЫЯНІСА

**(З Фоція)**

Тры гронкі вінаграду зрэзаў Дыяніс:
Адну сабе пакінуў,
Другую Афрадыце даў, зрабіўшы ёй сюрпрыз,
А трэцюю, абраўшы зручную хвіліну,
Украла Пыха.
...Як Дыяніс наладжвае свой пір —
Патроху п'юць віно,
Там гутарка плыве павольна, ціха,
І розум не мутнее, там ісціна кумір!
У Афрадыты як праходзіць свята —
Там песні, карагоды, смех,
У радасці расходзяцца і хлопцы і дзяўчаты,
І праца спорыцца пасля пацех.
А ў Пыхі на гулянцы —
Да сініх напіваюцца агнёў,
Пад лямант, енк шалёныя заводзяць танцы.
Хапаюцца загрудкі, за чубы,
Пускаюць з носа кроў...
Так кожны год ўсё паўтараецца ізноў!

---

Хто мудра, хто бязладна
Сок спажывае вінаградны.

## ГАЛКА І ЗБАН

(З Авіяна)

Ад смагі Галка ледзь не млела...
І тут на шчасце — збан з вадой знайшла,
Напіцца захацела,
Ды не дастаць ніяк, вада на дне была...
І гэта Галку болей раздражніла:
Натужылася, хоча збан цяжкі перакуліць,
Але ёй не хапае сілы.
Задумалася: «Што ж рабіць?»
І выхад вынайшла, плуцяга,—
Каменьчыкі ўзялася хуценька збіраць
І ў збан той апускаць,
Вада ўзнялася, і наталіла Галка смагу!

---

Над сілай розум мае перавагу.

## БЫК І КАЗЁЛ

(З Барах'і Га Накдана)

Сустрэўшы Льва, Бык кінуўся ад смерці ратавацца,
Дабег да лесу і схаваўся ў хмызняку.
Ды тут Казла заўважыў,
Задрыжаў, назад стаў падавацца...
— Чаго, спалохаўся, браток? — сказаў Казёл Быку,—
Ці ж не пазнаў? З табой раслі мы на адным двары.
— Ах, гэта ты! — узрадаваўся Бык.—
Аж адлягло ад сэрца,
Мне ўсё жывое Львом здаецца...

---

Што ні гавары,
Напуджаны праследваннем, ганеннем —
Уласнага баіцца ценю.

## ПТУШКАЛОЎ І ВЕРАБЕЙ

(З Іоана Кантакузіна)

Набожны Птушкалоў злавіў старога Вераб'я
І кінуць у мяшок сабраўся,
Як Верабей азваўся:
— Ды я — бяда твая!
Ой, пашкадуеш, што са мной звязаўся...
Ледзь кінеш ты мяне ў мяшок,
Як адубее твой сынок...
Пасадзіш для забавы ў клетку,
Волі не дасі —
Дык літасці у бога не прасі —
Памрэш ты сам улетку.
Калі ж заб'еш мяне —
Любошчы жонка завядзе з суседам,
Сваё жыццё ты праклянеш
І ад пакут пякельных ператворышся ў шкілета...
Ад гэтых слоў
Закалаціўся Птушкалоў:
— Пракляты будзьце дзень, гадзіна,
Калі натрапіў я
На гэную птушыну!..
І выпусціў на волю Вераб'я.

Хто ў прымхі верыць, забабоны,
У цуды і чарцей,
Дык тога і безабаронны
Абдурыць верабей.

## САБАКІ І ЛЬВІНАЯ ШКУРА

(З Іосіфа)

Сабакі шкуру львіную знайшлі:
Накінуліся на яе разлютаванай зграяй,
Рваць на шматкі зубамі пачалі,
Брахаць шалёна, ганіць Льва і лаяць...
Ліса, убачыўшы ўсё гэта, так сказала:
— Каб быў жывы магутны Леў —
Ніхто б з вас падысці і цяўкнуць не пасмеў,
Ад рыку грознага ўсё наваколле замірала...

---

О, ганьба тым,
Хто у дугу згінаўся
Прад жывым,
А над нябожчыкам глуміцца ўзяўся...

## ПЛАДОВАЕ ДРЭВА

(З Леанарда да Вінчы)

Каля дарогі Дрэва адзінокае расло,
І на яго ніхто увагі не звяртаў ніколі,
Пакуль бясплоднае яно было.
Ды неяк Дрэва расцвіло,
І з завязі на голлі
З'явіліся плады,
Налітыя і сонцам і расою!
Тады
Хто б толькі ні ішоў дарогай тою —
І калаціў яго, шпурляў і палкі і каменні...
Тут Дрэва зашумела ў абурэнні:
— І гэта ўдзячнасць тым,
Хто пладаносіць?!

---

Працуе чалавек, свой людзям плён прыносіць
І рады, што патрэбен ім,
Ды злыдні часам у яго каменнямі шпурляюць,
А як заб'юць, дык кракадзілавыя слёзы праліваюць.

## ЗАЯЦ І ЧАРАПАХА

(З Лафантэна)

— Хаця ў тваіх нагах і спрыт і сіла
І маеш спрынтарскі разрад,
Ды я з табой хачу пайсці ў заклад,—
Так Чарапаха Зайцу гаварыла,—
Што к фінішу я першая прыйду!
Калі прайграю — стаўлю бочку піва.
— Раней мяне? Ой, не магу! Ад смеху упаду,—
Зарагатаў Зайчо.— Вось дзіва!
Ды ты хіба ў розуме сваім?
Ці кпіш з мяне, старая?
Каго ты на спаборніцтва, падумай, выклікаеш?!
— У розуме ці не — мы потым паглядзім,—
Спакойна адказала Чарапаха,—
Ну, як? Бяжым?
— Давай, паўзі... Пераганю цябе адным я махам!
Пакуль ты будзеш шкандыбаць,
Паспею ў халадку я падрамаць.
...Суперніца не стала бавіць часу дарагога,
Пусцілася размеранай хадой у шлях,
Ідзе наперад і ідзе! (А Заяц адсыпаецца ў кустах.)
А Чарапасе засталося ўжо прайсці нямнога,

Ну крокаў з пяць...
Нарэшце падхапіўся Заяц, кінуўся штосілы,
Але суперніцу не змог дагнаць.
Так Чарапаха з Зайца гонар збіла!

---

Перамагае той,
Хто слабасцю праціўніка умее карыстацца,
Таму, хто любіць зазнавацца —
Не выйграць бой.

## ЦВЫРКУНЫ

(З Ламота)

Сустрэліся два Цвыркуны
І завялі наступную размову:
— Мой гаспадар, хоць мае званні і чыны,
Такі лагодны, ветлівы, заўсёды услужыць гатовы,
Сагнуцца можа да зямлі ў дугу...
— Кінь, браце! Табе я іншае сказаць магу:
Перад начальствам распінаецца ён, рассыпае лёсткі,
А вернецца ў сваю кантору —
Дык грубым робіцца, прыдзірлівым і жорсткім,
Ўсе супрацоўнікі не плачуць ледзь ад гора...
Не чалавек ён —
Хамельён!
А ты яго хваліць, дзівак, узяўся...

---

Другі і званняў нахапаў і ардэноў
(Бо перад дужымі ўвесь век згінаўся),
Ды ўсё адно:
Як быў хамлом, так і хамлом застаўся.

## ЛІСА І ВЫДРА

(З Людвіга Гольберга)

Ліса, убачыўшы, як Выдра здорава ырае,
Як спрытна плавае і ловіць акунькоў,
Прамовіла: — Суседка дарагая,
Прасі ў мяне любых лясных дароў:
Салодкіх ягад, белых сушаных грыбоў,
Зайчаціны і нават пеўніка табе дастану,
А толькі плаваць і ныраць мяне ты навучы,
Лясныя мне прыеліся харчы,
Як ты, лавіць я рыбку стану!
— Ну што ж, табе магу дапамагчы,—
Згадзілася ахвотна Выдра,—
Я не лічу гэта навукай хітрай,
Заходзь сюды, дзе паглыбей,
За хвост чапляйся
Ды лапамі грабі шпарчэй,
Ну, паплылі!
Увішна Выдра на быстрак рванула
І на буксіры за сабой Лісіцу пацягнула.
— Ну, а цяпер ырца далі! —
Зноў Выдра падае каманду.
І шусь на дно, аж бурбалкі пайшлі!

Ліса за ёй, вядома, ззаду...
Па плану ўсё ішло пакуль,
Ды тут, няведама адкуль,
Нагнала шчупака велічынёй з паўметра,
І Выдру паляўнічы ахапіў азарт,
Шчупак у багавінне, ў нетры —
І Выдра ўслед. Ліса спалохалася не на жарт,
Ўжо не хапае ёй паветра...
«Хаця б разок дыхнуць!
На сонейка зірнуць,
Хутчэй адсюль патрэбна ратавацца...»
Мільгнула думка ў галаве.
І пачала Лісіца на паверхню узнімацца.
Абтрэслася, абсохла на траве
І так сама сабе сказала:
— Няхай сабакі разарвуць мяне,
Каб зноўку я нырала...

---

Другі свой лёс кляне,
Зайздросціць іншым, стогне, ные...
Ды кожнаму сваё, свая стыхія.

## МУРАШКА І ІНДЫК

(З Джона Ге)

Фанабэрыстаму Індыку
Уласны птушнік цесным паказаўся:
— Вунь, колькі там прасторы і спажывы у ляску!
І ў пошуках прыгод ён у паход падаўся...
Ўсё далей і глыбей ідзе у нетры,
Ўжо сонечны не прабіваецца прамень,
Суціх, прытомлены за дзень,
Свавольнік-ветрык,
Індык увагі не звяртае —
Брыдзе ў гушчар, спажывы ўсё шукае...
І чорт паслаў яму удачу:
Пад адной
Сасной
Мурашнік ён убачыў.
Накінуўся, стаў лапамі мурашнік разграбаць.
Дзяўбсці мурашак, прагна паядаць —
Нікому літасці няма!
Праз паўгадзіны
Ўжо засталіся ад мурашніка адны руіны...
Ды перамогай цешыўся Індык дарма:
Аднекуль Воўк з'явіўся,

Наскочыў на яго, пачаў за бокі браць.
Індык абураны ўсхадзіўся:
— Як смееш, жывадзёр, законы парушаць?
Разбой! Насілле! Чорнае зладзейства!
Прад богам будзеш ты адказ трымаць...
— Якое фарысейства! —
Мурашка, што ўцалела цудам, голас падала,—
Як смерць к табе прыйшла,
Дык прыгадаў закон і бога нават...
А сам сажраў
Усю нашу дзяржаву...

---

З гісторыі сюжэт для байкі я узяў.

## КАШЧЭЙ

(З Гелерта)

Кашчэй у сутарэннях процьму грошай меў,
І, па яго легендзе, ён разбагацеў
Не крадзяжом, рабункам і падманам,
А ўласным мазалём!
І бог каханы
Паслаў яму дастатак і багацце ў дом,
Што перад бліжнімі бязгрэшней ён анёла!
І дабрату сваю каб бедным даказаць,
Для жабракоў і багамолак
Прыстанішча стаў будаваць.
Збудаван дом.
Кашчэй глядзіць ды рукі пацірае:
— Размесціцца гаротнікаў тут шмат!
Хай моляць бога, што я сэрца маю,
Усім пакутнікам я брат.
— Ах, дабрадзей,—
Кашчэю праказаў знаёмы,—
Ты частку толькі прытуліў.
А колькі разарыў і выгнаў з дому
І з торбаю па свеце ты пусціў...
Ці ж змесцяцца яны усе пад дахам гэтым?

Закончым байку так:
Багата ліхвяроў, рабаўнікоў і прайдзісветаў,
Народу кінуць недагрызены маслак
І казыраюць «дабрадзейнасцю» на ўсю планету.

## БАЦЬКА І СЫН

(З Фларыяна)

— Парай мне, тата, як са шчасцем заручыцца,
Каб грошыкі вяліся і добрую пасаду я займеў,—
Сынок дазнацца захацеў.
— Ды вельмі проста,—
Бацька адказаў,— вучыцца,
Служыць Айчыне, за народ стаяць гарой,
І прыйдуць грошы, слава, шчасце —
Ўсё само сабой.
— Ах, гэта доўга, рызыкоўна, цяжка...
— Тады інтрыгамі займіся, шантажом,
Звівайся і паўзі вужом,
Больш ляскай языком, не шашкай —
Здабудзеш і багацце і чыны.
— Не, тата! Ганьбай гэта мне здаецца.
— Ага! Тады прыкінься ты дурным —
Жывецца у наш век няблага ім!

---

І гэтак многім удаецца.

## КАРОЛЬ І НАРОД

(З Лашамбодзі)

Кароль пісаў указы і законы,
Пакласці каб канец нястачы і бядзе,
Бо чуткі прабіваліся, што пад яго каронай
Народ жыве так дрэнна, як нідзе.
Кароль не хоча верыць:
— Інкогніта ў карэце пракачуся сам,
Прыму крутыя меры,
Ўжо ліхадзеям я задам!
...Але прыдворныя таксама ў шапку не драмалі —
Ва ўсе канцы
Ляцяць ганцы,
І грамадзянам загадалі:
«Дарогі замасціць,
Пафарбаваць парканы,
Гусей насмажыць, піва наварыць,
Усім скакаць, спяваць і біць у барабаны!»
І вось, куды ні з'явіцца Кароль,—
Усюды і віна і піва мора
І закусі ўсялякай горы,
Вітаюць Караля, падносяць хлеб ды соль,
Народ спявае, весяліцца!

— Выходзіць, чуткі — злосная брахня,—
Сказаў Кароль, вярнуўшыся ў сталіцу,—
Падданыя мае жывуць не горш, чым я!
Ні гора не даймае іх, ні клопаты, ні скруха...

---

Спрытней за праўду паказуха.

## ГАРАЧАЯ ЛЮБОЎ

(З Лесінга)

Кларында ў росквіце гадоў падзякавала богу,
Іначай кажучы, ў свет іншы адышла...
Яшчэ яе магілка траўкаю не абрасла,
Як следам муж адправіўся ў дарогу.
Дабраўся ён да раю, выцер з твару пот,
Загрукаў кулаком у дзверы:
— Гэй, браму адчыняй, стары цяцера,
Я адпачыць хачу пасля зямных турбот!
Святы Пятро заспаны паказаўся:
— Які нячысцік тут разбушаваўся?!
А-а-а, гэта ты!
Даўно кабеціна твая цябе чакае
І месца побач ля сябе трымае...
— Што-о-о?! Жонка тут?
Ратуй мяне, ратуй, святы! —
Нябожчык узмаліўся,—
Яе любоў гарачая —
Пакуты мне адны,
У пекла лепш, да сатаны,
Я з ёй не жыў,
А цэлы век сварыўся.

Сыдуцца камень і каса:
Бяда і мужыку і гора жонцы,
Любоў знікае, як раса
На сонцы.

## ВОЛ І ЦЫКАДА

(З Ірыартэ)

Вол плуг цяжкі цягнуў, араў ён поле,
Цыкада ўбачыла, застракатала: — Так, так, так!
Працуй! Гультаявáць я не дазволю!
І баразну вядзі не абы-як,
Раўнютка, без агрэхаў,
Работа гэта не пацеха...
Што замычаў і закруціў хвастом,
Чаго спыніўся?
— Заціхні. Адыдзі. Бо лясну капытом.
Ад балбатні тваёй стаміўся,—
Цыкадзе злосна кінуў Вол,—
Я дваццаць год ару зямлю,
І на твае парады і каманды я плюю!

---

Працаўніку перашкаджае балабол.

## МУСТАНГ І АРГАМАК

(З Красіцкага)

Аб'езджаны чыстапародны Аргамак
Сустрэў у стэпе дзікага Мустанга,
Загарцаваў, заржаў з апломбам: — Гэй, дзівак!
Ці разумееш ты, у чым мая краса і перавага?
Я ў золаце і срэбры зіхачу,
Мяне пястуюць, хвост расчэсваюць і грыву,
І ем і п'ю я колькі захачу,
Жыву шыкоўна і шчасліва!
А ты па стэпу гойсаеш галодны...
— Кінь выхваляцца і лухту малоць,—
Сказаў Мустанг.— Я звер свабодны!
А на цябе, хоць залатая, ды аброць,
Тваёй я не зайздрошчу долі...

---

Найдаражэйшая ўсяго на свеце — воля!

## СУМЛЕННЫЯ КАТЫ

(З Саманьега)

Прыхільнік я праўдзівасці, і прастаты,
І сцісласці: такі мой звычай.
Забраліся на кухню два Каты
І шнырыць пачалі, шукаючы здабычу.
Пашэнціла, вядома, ласунам
(Бо нюх яны і вопыт пэўны мелі),
Знайшлі засмажанага
На ражне адкормленага каплуна
І тут жа з'елі.
І думаць пачалі, ускочыўшы абое на акно:
«А можа з'есці заадно ражно?»
— І з'елі? О, ганьба! Сорам!
Забыць на этыкет? Зняславіць знатны род?
— Ды што вы! Супакойцеся, сеньёры!
Наадварот,
Мае Каты, паверце, ведалі законы чэсці:
Сумленне не дазволіла ражон ім з'есці.

## ЖАБЫ

(З Гётэ)

Апала лісце, павеяла калючым халадком,
У вырай адляцелі журавы і качкі,
Зацягваць сажалку танюткім пачало лядком,
Час надышоў зімовай спячкі —
Даволі Жабам квакаць і скакаць!
Але яны ўзяліся плакаць, уздыхаць:
— Ах, каб аблашчылі ізноўку
Сонечныя нас праменні,
Каб зазвінелі ручаі —
Мы б заспявалі б з гэтакім натхненнем,
Што пазайздросцілі б нам Салаўі,
Звяры і птушкі ўсе прыйшлі б у захапленне!
...Вось і вясна. Расталі ўжо ільды.
Загаманіла, ажыла прырода!
Тут Жабы выплылі на беражок з вады
І, як заўсёды,
Заквакалі, затуркацелі дзіка,
І гвалт і лямант узнялі...

---

Жывецца жабам добра на зямлі,
Не талентам бяруць — дык крыкам.

## ТУФЛІ

(З Генрыха Гейнэ)

Старая Кошка ўжо ранейшага не мела спрыту
І харч па-іншаму ўзялася здабываць —
Абутак дамскі перапрадаваць,
І, кажуць, тым была яна і сыта...
З вітрыны, выстаўленыя ўсім напаказ,
Прываблівалі модніц туфлі рознага фасону:
І пад саф'ян і пад атлас,
Аздобленыя кветкамі, і аблямоўкаю зялёнай,
Расшытыя узорам залатым.
Ды асабліва
Спадабаліся паненкам маладым
Заакіянскія. Не туфелькі, а — дзіва!
Бліщчастыя, як жар.
Зірнеш і ўбачыш, бы ў люстэрку, твар.
...Аднойчы Мышка белая, высакародная асоба,
Праходзіла каля акна,
Заўважыла іх, затрусілася, як ад хваробы,
І папрасіла ветліва яна:
— Васпані, Кісанька,
Мне пакажыце туфелькі вунь тыя,
Гарачы колер вельмі я люблю,
Калі падыдуць па назе, я іх куплю.

— Заходзь, заходзь. Адны ў мяне такія.
Я для сябе іх берагла.
Але нявыкрутка. Бо надышлі часы ліхія...
І Мышка ў кошкін дом зайшла,
На зэдлік для прымеркі села,
А Кошка тут яе і з'ела!

---

Падалей ад спакус,
Не [redacted] кожным завадзі хаўрус.

## БАЛОТНАЯ КРЫТЫКА

(З Фрэліха)

Дыханне сцішыўшы, Дрозд слухаў Салаўя,
На сёмым небе быў ад асалоды!
Ад трэляў звонкіх, варыяцый,
Пяшчотных і хвалюючых мелодый
Чароўным здаўся лес і ўся зямля!
Як раптам з твані,
Спеваку назло, наперакор,
Заквакаў Жаб балотных хор.
— Ў чым справа? — Дрозд задаў пытанне,—
Хто змог зняважыць музыку святую?
...Пачуўся рогат у адказ:
— Мы крытыкуем!

———

Такія крытыканы ёсць у нас,
Сказаць я мушу,
Ім намякні — любы талент прыглушаць.

## ПАНКРАТ І РЭХА

(З Арно)

Паклёпнік, злоснік і пляткар Панкрат
На Рэха дужа узлаваўся:
— Што ні скажы — яно паўторыць неўпапад!
Я ад грамадства адцураўся,
Стаў маўчуном,
Бо ляпнеш слова — коціцца ўжо гром,
Згубіў давер, няма цяпер пашаны,
І ўсё з-за Рэха, трасцы на яго!
— Ого!
Мяне вініш, а сам брахун паганы,—
Азвалася тут Рэха ў абурэнні,—
Калі б ты меў сумленне
Ды плётак не пускаў, не узнімаў бы звягі,
Дык між сяброў і між радні
Не страціў бы павагі.
Свой нораў, свой язык віні.
Я ж толькі тое паўтарала,
Што з языка твайго злятала.

---

Вакол сябе зірні,
Не давярайся языкатым,
Бо справу маеш ты з Панкратам.

## ШАВЕЦ

**(З А. С. Пушкіна)**

Шавец разглядваў так і сяк карціну
І недакладнасць у абутку адшукаў.
Мастак агрэх паправіў за хвіліну,
Тады Шаўца азарт крытычны ўзяў:
— Здаецца мне, твар намалёван крышку крыва,
Аголены занадта бюст, а рот...
Тут Апелес прамовіў нецярпліва:
— Судзі, браток, ды не вышэй, чым бот!

---

Ёсць у мяне знаёмы на прыкмеце:
Не ведаю, ці лічыцца ён знаўцам ў этыкеце,
Ды цягне за язык яго заўсёды чорт
Сурова асуджаць усё на свеце...
«Судзі, браток, ды не вышэй, чым бот!»

## ЗМЕСТ

### Лірыка

## Сатыра

### Казёл на трыбуне

**Усмешкі продкаў (Па матывах класікаў)**

Эдуард Станиславович Волосевич
ПОЛЮСЫ
На белорусском языке

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак Г. Г. Малышаў. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Л. Р. Законнікава.

ИБ № 196

АТ 12 526. Здадзена ў набор 15/IX 1976 г. Падп. да друку 8/II 1977 г. Тыраж 7000 экз. Фармат 60×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк арк. 6,6. Ул.-выд. арк. 3,89. Зак. 3586. Цана 43 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Валасевіч Э.**

В42 Полюсы. Лірыка і сатыра. Мн., «Маст. літ.», 1977.

176 с.

Новая кніга Эдуарда Валасевіча «Полюсы» складаецца з двух раздзелаў — лірыкі і сатыры.

У першым з іх выказаны адносіны аўтара да жыцця, кахання, роднай прыроды; у другім — крытыкуюцца асобныя недарэчныя з'явы, перажыткі ў свядомасці адсталых людзей.

Кніга разлічана на масавага чытача.

$В\frac{70403\text{-}059}{В\ 302(05)\text{-}77}42\text{-}77$ Бел 2